# Сяргей Дубавец

## ТУТ

### 1.

Ты нарадзіўся тут, значыцца ты - тутэйшы, таму тут і жыві. Калі б ты нарадзіўся ў Афрыцы, дык штодня еў бы бананы, а калі б у Літве, - гаварыў бы па-літоўску, а калі б у Японіі, - даўно меў бы недарагі відзік альбо камп´ютар. Але ты нарадзіўся тут. І мне цяжка сказаць, што ты ясі, на якой мове гаворыш і колькі часу адкладаў грошы на сваю "Весну". Што я пра цябе ведаю дакладна, дык гэта тое, што застудзіўся ты ўжо ў раддоме, і што могілкі, на якіх цябе пахаваюць, сьледам спляжыць бульдозер, каб можна было паставіць новы мікрараён і пасяліць у яго тваіх унукаў, якіх менш за ўсё на сьвеце будзе хваляваць, хто быў іхні дзед і як яго звалі.

Зрэшты, і цябе самога гэта хвалюе найменш. Ты ведаеш, што ў Афрыцы жывуць дзікуны, у Літве - нацыяналісты, а ў Японіі - імпэрыялісты... Ты ведаеш, што ты не такі, як яны, і ў гэтым твой гонар. А хто ты сам - неістотна. Ты не такі - вось галоўнае. А што кажуць пра заходнюю культуру, дык і ў нас ёсьць беларуская Швайцарыя ці Вэнэцыя, дзе па беларускім Арбаце таксама некалі хадзіў які-небудзь беларускі Гамлет з кніжкай беларускага Сянкевіча ў кішэні. А як жа? Свая гісторыя і свая культура, свой гонар. І пры гэтым ніхто не насьмеліцца назваць цябе нацыяналістам. Бо ты ўдзячны лёсу, што за ўсе часы твая блакітнавокая радзіма не засланіла табе чужой красы, цябе ад сьвету не адгарадзіла. Някай бы толькі паспрабавала блакітнавокая адгарадзіць! Ты б ёй хутка даказаў, што нашыя трактары працуюць на ўсіх кантынентах, і нам дастаткова самім стаць трактарамі, каб паўсюль пабываць. А можна яшчэ стаць нафтай (вытворчае аб´яднаньне "Беларуснафта") альбо каліем (ВА "Беларускалій)... Цяпер бачыш, хто ты такі?

Вядома, ты мог нарадзіцца дзе-небудзь у Краіне вікінгаў ці на Гавайскіх выспах, ці ў казачным Сінгапуры, сярод белых лілеяў... Але ты нарадзіўся тут. А тут - зона, край пэтэвэшнікаў у нямытых шкарпэтках, край кіслатварых сталаначальнікаў, край шэрых пасёлкаў ды нудных індустрыйных краявідаў. Што тут любіць? Любіць можна Кіжы і Шарптарамбапутку, Бадэн-Бадэн і Дыснэйлэнд... А яшчэ ты любіш касэты "Соні", фірмовыя курткі й блішчастыя вокладкі іхніх часопісаў. А твая сяброўка усё гэта любіць нават больш, чым цябе. Такая любоў. І калі тут няма чаго любіць, дык затое ёсьць чым ганарыцца. Тут - меліярацыя, эмансіпацыя, урбанізацыя... Гэтыя розныя словы азначаюць у рэшце рэшт адно й тое. А менавіта - выкарыстаньне чалавечае масы, чалавечага матар´ялу, чалавечага фактару дзеля далейшага павышэньня, паляпшэньня, паскарэньня. Маса - гэта можа быць і пра нафту, матар´ял - пра калій, а слова фактар вельмі добра рыфмуецца са словам трактар. Праўда, адносіны да іх розныя. Напрыклад, ніхто яшчэ не дадумаўся загнаць трактар у падземны пераход ці пераезд, бо на ўздымах будзе перарасход са-

ляркі. А фактар пакуль ад ЦУМу да ГУМу дойдзе - шэсьць разоў пад зямлю злазіць. Вось жа гэтыя пераходы й ёсьць урбанізацыя. Хто скажа, што яна не для чалавека?

Ты згодны? Тады кусай свой бутэрброд, хапай куртку й бяжы, сьпяшайся туды, куды, па вялікім ракунку, табе зусім ня трэба: на службу, на працу, у краму...

Ты ня згодны? Тады выкінь усё гэта з галавы й паўтарай за мной: метро - гэта самы антыгуманны, антычалавечны й гідкі прадукт урбанізацыі. Цябе заганяюць пад зямлю, быццам ты ўжо мярцьвяк, зьліваюць, як вядро памыяў у яміну, у бяствары пасажырапаток, і ты ўжо ня бачыш неба, сонца й дрэваў паміж архітэктурных пякнотаў, дыхаеш невядома чым, і шум дажджу для цябе па-за слыхавым парогам. А ўсё гэта толькі дзеля таго, каб хутчэй, барзджэй, спрытней перамясьціцца адсюль - туды, куды па вялікім рахунку ня трэба. Раз - і там. Сьпешка, цісканіна, чмур. Вось калі б ты нарадзіўся там... Недзе ж ёсьць такое: усё, што трэба, - у краме за два крокі ад дому, а дом - за два крокі ад працы, і калі ўжо ехаць кудысьці, дык раз на тыдзень, для душы, а паездка - запамінальная падзея. Недзе...

А ведаеш, чаму беларусы не гавораць на роднай мове, ня цямяць ва ўласнай гісторыі ды вырадзжаюцца як народ? Спачатку я таксама думаў, што - школы няма, што - начальства не размаўляе, што - сарамяжлівыя... А цяпер я ведаю: яны такія, бо на іх напаў чмур. Ачмурэлі ад сьпешкі, бо каб хоць неяк жыць, трэба хоць нечага дастаць, хоць некуды пасьпець, хоць зь некім пасварыцца, думаць і дбаць увесь час толькі пра гэта. Бегчы, бегчы, бегчы... Ну, напэўна! Метро тут вельмі прыдалося. Вось калі б яны не мітусіліся, не ачмурэлі ад свайго спажывецкага клопату пры вечных дэфіцытах, у іх быў бы час думаць яшчэ й пра мову зь гісторыяй, яны б хутка разабраліся і са школамі, і з начальствам, бо ніякі народ ніколі яшчэ ад свайго дабраахвотна не адмаўляўся... Ні калію, ні трактару, ні пасажырапатоку ані мова, ані гісторыя не патрэбныя. Ім бы толькі: "Дыр-дыр-дыр"... І ўсё.

І калі я думаю пра эмансіпацыю, я таксама заўсёды ўяўляю сабе наш гарадзкі транспарт, дзе абавязкова ўлезеш носам у чыюсьці нясьвежую андуляцыю. Дык вось, эмансіпацыя - гэта й ёсьць андуляцыя ў перапоўненым транспарце. Меліярацыя - тое самае, толькі адбываецца яна пад андуляцыяй, пад полубоксам і пад плешшу.

Калі ты не захочаш ганарыцца гэтым, можаш ганарыцца роўнасьцю. Тут - усё роўнае, няма ні больш, ні менш, усё пасярэдзіне: калій і чалавек. Усё сярэднеарыфметычнае: мазгі й харчы, кансэрватызм і экстрэмізм, міласэрнасьць і злачыннасьць, - усё ня першага й ня пятага, а сярэдняга, трэйцяга гатунку, нават цяжка адрозьніць адно ад аднога. Тут няма бананаў, але няма й адылаўскіх казэматаў (зрэшты, хто ведае?), няма сваёй мовы, але няма й нацыяналізму, няма відзікаў, але няма й дамоў цярплівасьці (праўда, і гэта не аксіёма). Ты ня можаш быць геніем, але ня можаш быць і беспрацоўным. Усё гэта гвараитуе табе краіна трэйцяга гатунку з кароткай назваю Тут. Трэйцяга гатунку твая "Весна", твае цыгарэты й твая сяброўка, якой, каб пакахаць цябе, трэба выпіць.

Інакш проста ня можа быць. Хіба што ў амэрыканскіх фільмах, якія больш падобныя да маляўнічых міражоў. Там твой раўналетак Джон у сваім "Сітроэне" едзе ў невялічкі бар на ўскрайку Нью-Кастла, каб правесьці вечар з залатавалосай Лу-

ізай, якую ён называе проста Ліз. Едзе пасьля рабочага дня, пасьля працы, за якую яму далі і на "Сітроэн", і на бар, і, калі трэба, на Ліз. А ты нарадзіўся тут. І не бяда, што ты не Джон і ня можаш проста так, за 10 цэнтаў наведаць грамадзкую прыбіральню, дзе ўсё блішчыць, пахне кветкамі, дзе музыка й мяккая папера. Ты будзеш бясплатна стаяць над правалам за якой-небудзь з нашых аўтастанцый, не раўнуючы як Лермантаў над правалам у Пяцігорску. Пры гэтым ты будзеш пазіраць у начное зорнае неба, усьведамляць, колькі там лётае нашых спадарожнікаў і ганарыцца, што за гэткае шчасьце ніхто не адабраў у цябе твае 10 капеек. А ўсё таму, што ты нарадзіўся тут.

Так, у нас ёсьць праблемы. З праблемаў складаецца ўсё нашае жыцьцё. Бо трубы гараць і гудуць, бо ў зельні ніколі ня возьмеш патрэбныя лекі. Бо ад булёну ў "Хвілінцы" патыхае судамыйнай анучай, бо так невыносна глядзіць на цябе міліцыянт. Бо калі ты спрабуеш пісаць па-мастацку - выходзіць хлусьня, а калі пішаш, як ёсьць, - выходзіць суцэльны мат... Але ўсё гэта вельмі хутка забываецца, калі ты пачынаеш ганарыцца й марыць пра тое, што недзе яшчэ горш.

2.

Калі б ты нарадзіўся там, ты б плаціў грошы й ня меў клопату са сваім культурным жыцьцём. Ты б ня ведаў, што такое Дзюма за макулатуру й Салжаніцын у сьпецсховах; а По разабралі. Ты б зрабіў круглыя вочы, калі б табе сказалі, што палова літаратуры той нацыі, да якой ты належыш,- забароненая для чытаньня (як дагэтуль забароненая палова літаратуры беларускай). Але ж ты нарадзіўся тут. І "Файбл" 1971-га году, дзе Блэкмар грае на віялянчэлі, для цябе па-ранейшаму каштуе 40 рублёў. На чорным рынку. Праўда "Мордэрн Торкінг" ты вольна можаш набыць за траяк... А яшчэ ты можаш зьезьдзіць у Маскву й бясплатна паглядзець на чаргу па білеты ў музэй, дзе паказваюць Далі. Калі б гэтай чаргі не было, ты б яшчэ падумаў, ці варта траціць грошы. Карціны так стамляюць!..

Ты навучыўся ацэньваць культурныя зьявы па іхняй недаступнасьці. Напрыклад, кнігу ня так важна прачытаць, як мець; кіно ня так важна пабачыць, як схадзіць на яго й г.д. І тоўстая цётка, што стаіць у даўжэразнай чарзе па томік Басё, калі ты ў яе спытаеш, сарамліва ўсьміхнецца табе й скажа, што купляе для дзяцей, якія вырастуць і калі-небудзь прачытаюць. А ейныя дзеці на калі-небудзь купляюць сваім дзецям. І разам з дзецьмі вырастаюць цэлыя хатнія бібліятэкі нечапаных, неразгортваных кніг...

Не, гэта ня цётка дастала Басё. Гэта яе дасталі. А ўся справа ў арыфметыцы. Там: культура плюс маскультура. Тут - паўкультура плюс ідэалёгія. Калі ідэалёгія ператвараецца ў маскультуру, як гэта адбылося там, яна тады не накрывае сабою палову сапраўднае культуры, як гэта адбываецца тут, і сапраўдная культура бытуе ў поўным аб'ёме, як там, а ня дзеліцца на дазволеную нудоту й забароненыя спакусы, як тут. Культурныя зьявы ацэньваюцца тут зусім не за мудрасьць, густ і талент творцаў. Тэатр найлепшы, дзе найбольшыя ажыятаж і кошты. Выяўленчае мастацтва - дзе пякноты. Фота - дзе голыя жанчыны. Кіно - дзе ўсё гэта разам і страляюць. Будзь абачлівы, калі выходзіш з глядзельнае залы. Побач магу аказацца я - з нататнікам, і запісаць за табой што-небудзь гэткае:

3.

- Кра-сі-ва! (На выставе Ісачова).

- Нармальнае кіно, толькі страляюць мала (Пасьля "Ідзі і глядзі").

- Клас! 18 актаў! (Пасьля "Легенды пра Нараяму").

Эротыка, вядома, разьмякчае нам закасьцянелыя мазгі. Але ж мы нібы крадзем яе ў шэдэўраў - у фільмаў, карцінаў і кніг. У Рубенса, у Багдановіча, у Вісконці. А ўрэшце толькі па ёй і пачынаем ацэньваць шэдэўры. Вось калі б ты нарадзіўся там...

Там адзін пісьменьнік сказаў, што можна жыць у дупле старадрэвіны й адчуваць сябе шчасьлівым. Прозьвішча пісьменьніка Камю, што па-француэку значыць "кірпаты". У часе вайны ў Іспаніі так называлі савецкія зьнішчальнікі, толькі па-іспанску гэта гучыць "чатас". Але калі ты закочаш стаць пісьменьнікам, цябе ніхто не назаве Камю ці "чатас". Цябе могуць назваць толькі "кірпаты". Бо ты можаш стаць пісьменьнікам толькі тут. Ты можаш стаць толькі тутэйшым пісьменьнікам, якога тут усё задавальняе, бо за гады застою, напрыклад, ніводзін беларускі пісьменьнік не выехаў з краіны Тут у краіну Там. Адзін, здаецца, ці два былі выгнаныя з Саюзу пісьменьнікаў, аднаму кідалі ў вокны камяні, двух-трох пашчыкалі ў друку... Вось, эдаецца, і ўсе ахвяры, якія за праўду й чалавечнасьць, за сваю мову панесьлі 300 тутэйшых літаратараў. І як заўсёды, якраз тыя, каго выганялі й каму білі шыбы, каго шальмавалі, - тыя й аказаліся рэдкімі беларускімі пісьменьнікамі, якіх чытаюць і ведаюць і тут, і там. Але вернемся да цябе.

Дзеля таго, каб стаць тутэйшым пісьменьнікам, трэба рыфмаваць вершы й раз-пораз пакрыкваць на бакі:

"Ня трэба нам біць па крылах! Лепей згасіце сьвятло і, калі вочы прызвычаюцца да цемры, глядзіце, як мы будзем лятаць!.."

Ты ніколі ня бачыў, як лятае таракан?

Ён лятае толькі тут. Бо там, у дупле, яго даўно б зьелі караеды. А тут ён выпаўзае апоўначы з-за ракавіны, прысядае на ўсе свае ногі, уяўляе сябе зьнішчальнікам, раськірэчвае крылы і... Галоўнае, каб ніхто не запаліў сьвятло.

Калі ня хочаш вершы, можаш пісаць музыку. Толькі памятай, што тараканы адыгралі важную ролю ў эвалюцыі жыцьця на Зямлі, а Людвік ван Бэтховэн сваю 9-ю сімфонію напісаў на матывы беларускіх народных песень. Ведай, каб ганарыцца!..

Праўда, першы беларускі опэрны тэатар, дзе паўтараста гадоў таму гралі першую беларускую опэру Манюшкі й Дуніна-Марцінкевіча й які стаяў на рагу вуліц Леніна ды Інтэрнацыянальнай у Менску, - зьнесьлі ў 1982 годзе (аўтар зносу - архітэктар Грыгор'еў), каб ты мог нармальна разьвіваць куткасьць. А іншых Манюшкаў у нас проста няма. Зрэшты, і гэтага я ўзяў напракат у Польшчы. Магу яшчэ ўзяць там беларусаў Міцкевіча Адама і Сыракомлю Уладыслава. Магу таксама з літоўскае пазычальні "пракаціць" кампазітара Галкаўскаса (Галкоўскага), магу з расейскай - Дастаеўскага, Грыбаедава, Лісарава, Грына... Магу з францускай - Апалінэра. Вось толькі задарага ўсё гэта каштуе. Надта ж іх шмат, гэтых нетутэйшых беларусаў. Бо не падыходзяць яны пад наш крытэрый - тутэйшых. Дзякуючы крытэрыю ў нас няма Бэтховэна, а тых бэтховэнаў, якія ў нас ёсьць - не асабліва цэняць там.

Крытэрый - гэта самае надзейнае, што мы маем. Гэта такая палка, якой мераюць пісьменьнікаў, мастакоў і кампазітараў. Калі ты вышэй за крытэрый, ты проста ня зьмесьцісься пад ракавінай і ўсім будзе цесна.

Хочаш паспрабаваць? Вазьмі што-небудзь экстракляснае, напрыклад, апавяданьне якога-небудзь Борхеса, перакладзі на беларускую мову, замест Карласа пастаў Міколу, замест Вальпараіса – Бешанковічы. Цяпер занясі гэта ў любую тутэйшую рэдакцыю й паслухай, якім занудным голасам табе скажуць:

– Малады чалавек, у вас няма адчуваньня мастацкай прозы. Спускайцеся лепей да нас, пад ракавіну, а калі згасяць сьвятло, усе разам будзем лятаць...

І лоб у іх будзе блішчэць ад сала.

Там інакш. Там гэтага няма. Там усіх тараканаў спалілі яшчэ ў часы сьвятой інквізіцыі. Разам са словам КРАМОЛА. А тут...

Хочаш ведаць, чым тутэйшая культура адрозьніваецца ад тамтэйшай? Тады едзь у Сынковічы й спытай, дзе ў іх калгасны сьвінарнік. Каля сьвінарніку знойдзеш пакінуты храм, помнік архітэктуры сусьветнага значэньня. Раптам табе захочацца абмачыць сьцяну. Што ж, ня ты першы, ня ты апошні. Гэта як плюнуць з вышыні.

Дык вось, ТАМ цябе за такое, можа, і не асудзяць, бо не зразумеюць. А ТУТ – асудзяць. Маральна асудзяць, калі заўважаць...

Але зразумеюць.

# МІРАСЛАЎ ШАЙБАК ‡

СЬМЯЯЛІСЯ

Ці існуе мяжа паміж высокай трагедыяй і абсурдам? Дзе знаходзіцца той бар'ер, што вызначае страту лагічных пачаткаў, сувязь рэальнага з ірэальным? Хто можа вызначыць, адчуць, паказаць пераход абсурду ў чорны гумар або ў высокую трагедыю, або наадварот: трагічнага ў іранічнае?

Мне здаецца, што слова Грэцыя можа выклікаць усьмешку, а Рым - не выклікае. Есьць нешта іранічнае ў словазлучэньнях: Крыта-мікенская культура, Старажытная Грэцыя; а словазлучэньні: Вялікая Рымская імпэрыя, Трэйці Рым, Расійская дзяржава - адразу насьцярожваюць, адчуваецца ціск, недзе ў падтэксьце хаваецца небясьпека. Можа гэта закладзена генетычна, група крыві й рэзус-фактар?

Шпенглер - сьмешнае прозьвішча? А Нэрон, Напалеон, Сталін? Ня хочацца ўсьміхнуцца? Не?

"Культура - гэта імкненьне да шчасьця", - напісаў філёзаф зь дзіўнаватым прозьвішчам Шпенглер. Есьць мяккасьць у слове культура й ня толькі ў слове.

Цывілізацыя - гэта наш дабрабыт. Як успомніш, што трэба есьці, каб існаваць, а цукар, фруктоза, глюкоза па талёнах і невядома, што будзе заўтра... Чамусьці ў крамах узьнікае жорсткасьць. Наш дабрабыт - прыемна гучыць, а пачынаеш злавацца на самога сябе, на жыцьцё, на горкую долю, на ўвесь сьвет. Вось тады хочацца так званай культуры. І не сваёй, а каб нам нехта прынес, прывез, падараваў частку, кавалачак, трошкі сваёй.

Дарэчы, нам, Беларусам, гэтае дабро несьлі й несьлі, можна сказаць, валам валілі, вазілі й з Усходу й з Заходу. У вайсковых абозах. З Усходу - пад харугвамі з Георгіем Пераможцам. З Захаду - пад чырвонымі штандарамі са свастыкай. Гэта мы толькі цяпер даведаліся, што сьвяты Георгі - гэта ж наш родны Віцебскі герб, яго ў нас разам з жонкаю пазычылі, а свастыку, наогул, на Захад з Усходу прывезьлі. З Індыі. Тут можна заблытацца. І можа я зусім не пра тое апавядаю? Нешта пасьля такіх пазыкаў і ахвяраваньняў у нас статыстыка закліньвае. То кожны трэйці, то кожны шосты, пяты, чацьверты - для нас такія звычайныя словазлучэньні, ажно сьляза выкочваецца ад усьмешкі.

Есьць у нашым фальклёры жарт. Адзін чалавек другому распавядае пра вясельле. І між іншага ўспамінае: "Таньчылі. Дзіцяці на галаву наступілі - адно хруснула. Сьмяяліся".

Самае цікавае, што мы ўсьміхаемся шчыра, ад душы. На Усходзе ўсьмешкі, як у парцалянавых балванчыкаў; на Захадзе - то занадта экспрэсіўныя, непраканальныя, бутафорскія, то - што зморшчыкі: стрыманыя, сьцятыя.

Шчырая ўсьмешка - вось наша нацыянальная рыса.

Гэта не з кітайцаў, а з нас трэба парцалянавых балванчыкаў рабіць.

Есьць у нашай усьмешцы спрадвечнасьць, абкатаная стагодзьдзямі, яна з быцьцём назаўсёды прырасла. Будзем рагатаць, займацца дабрабытам, а культуру нам на коніках у абозе

прыцягнуць. Ужо наехалі конікі з Поўначы. Паплыла культура ў стылі рэтра. Какі, "аля мілітары" - гэта ж спрадвечнае рэтра. Вайскоўцы, дарэчы, добра глядзяцца на танцах, асабліва ў правінцыйных клюбах. Памятаеце аб'яву: "Заўтра дыскатэка на пляцы - кулямётчык Г. дастаў два новыя дыскі!"

Памятаем, памятаем Рэнесанс - прыемна гучыць слова. Адраджэньне - ужо даволі каструбаваты тэрмін. З выраджэньнем асацыюецца.

Існуюць у мове парадоксы: культурная рэвалюцыя, Міністэрства культуры, Фонд культуры й драбнейшыя - адзьдзелы, сэктары, сэкцыі. Парадоксы зьдзіўляюць спачатку, а потым - сьмешна.

Пачуцьцё гумару ўзьнікае й выратоўвае. Так? Ад чаго? Ад тае мяжы, за якой высокая трагедыя дурылкі кардонныя паказвае. І ня проста гумар. Чорны гумар выратоўвае ад высокай трагедыі.

Цар Эдзіп забіў бацьку й ажаніўся з маці, а як даведаўся, дык выхапіў вострую спронжку й вочы сабе выкалаў. Самая, самая высокая трагедыя, чалавецтва ня ведае, што можа быць вышэй. Дазваляецца плакаць, галасіць, ірваць валасы... Ды не, нас гумар выратоўвае. Мы шчыра ўсьміхнемся й вызначым - абсурд, ці яшчэ горшым словам перахрысьцім: дзікунства змрочнага сярэднявечча, сьмешна, як малыя ў заацырку. Проста цырк на дроце.

Сьляза вышыбаецца ў нашага чалавека хутчэй рогатам на кінакамедыях і яшчэ, часам, на індыйскіх меладрамах.

Памятаем, як той казаў: жыць стала лепей, жыць стала вясялей. Мы вясёлы народ.

Праметэй, Ікар, Сізіф, Эдзіп - сьмешныя імёны? Адзін Геркулес выклікае павагу.

Уяўляем сабе маладога чалавека, які зможа вымавіць мясны набор: Геркулес, Гамлет, Гусоўскі бяз ценю іроніі? Высокім штылем шпарыць усур'ёз ці зможа нармальны чалавек? Вар'яткі дапамагаюць, мы дакладна ведаем. Інсулінавы шок, электратэрапія... Косткай у горле стане ўсьмешка, калі дзяржаўную палітыку, інтэрнацыянальны абавязак, прагрэсыўны падатак вымавім без належнае павагі.

Аляксандар Македонскі, Аляксандар Неўскі, Аляксандар Сувораў - сур'ёзныя людзі, патрыёты, выклікаюць павагу? Асабліва Сувораў, гэта які Турцыю ад Туркаў вызваляў, Беларусь ад Беларусаў.

Памятаем, як у 1794-м мястэчка Прага, што пад Варшавай, вызваліў ад жыхароў. Выразаў ад малога да старога. Загады аддаваў: за кожнага забітага - рубель срэбрам.

Пранцішкі Скарыны, Савічы, Багушэвічы - гэта ж пісакі пранцузкія. Дазволена рагатаць.

Успомні, як натоўп галасіў, калі Язэпа вусатага хавалі. Быццам сонца назаўжды зайшло.

Ты спытай, хто для культуры больш зрабіў: Сталін ці Хрушчоў - жук кукурузны? Пра каго сур'ёзна трэба гаварыць? Пра вусатага, а лысаму на могілкі кіякі носяць, дзеля хохмы. Чорны гумар.

А тэатры трэба зачыняць. Гэта яшчэ Данііл Хармс заўважыў: "Девочка: Папа просил передать: театр закрыт, нас всех тошнит".

КАБ Я ЗДОХ

- Вольна! Усім распрануцца! Форма адзеньня нумар два - голы торс! - маёр Скотнікаў аддаваў загады спрактыкаваным, пастаўленым голасам.

Рота паскідала фрэнчы й папругі на зэдлікі. Маёр трымаў у руцэ драўляны кравецкі мэтр і то паляпваў сябе па халявах ботаў, то спрабаваў падчапіць павуціньне на стол і за пляфонамі. Нарэшце, маёр абаперся на мэтр дзьвума рукамі і зашыпеў:

- Станавісь!

Рота выцягнулася ўздоўж казармы. "Дзяды" занялі другую шнуроўку. "Духі" - першую.

- Дадакузіеў, крок наперад!

Радавы з першае шнуроўкі неахвотна выйшаў наперад. На чорнай, як падсмаленай, галаве, праз увесь лоб, ад брыва да кароткіх валасоў, цягнуўся шнар. Расьсечанае брыво крывавілася, і бурыя кроплі цяклі на павека. Дадакудзіеў прыклаў да брыва белую анучку.

- Кру-гом! - загадаў маёр і "дух" павярнуўся да строя.

- Хто гэта зрабіў?

- Я зь лесьвіцы ўпаў, - адказаў Дадакудзіеў.

- Пашчэнкі прыкусі, басмач, ты каму гэта гаворыш, я пятнаццаць гадоў у войску, а ты не служыў - ні хера. Зь лесьвіцы ўпаў, паскуда, а чаму шыю не скруціў, а гэта што? - маёр выцягнуў мэтр і пікнуў ім Дадакудзіева ў патыліцу.

- А на плячах чаму сінякі, га?

Маёр падыйшоў да шыхта і ўдарыў мэтрам радавога Насаўца па галаве.

- Што ў цябе на грудзях?

Радавы Насавец нахіліў голаў і пачаў уважліва разглядаць брунатную ў кобальтавых разводах пляму на сярэдзіне грудзей.

- Так што гэта? - маёр пачаў нэрвавацца і пачырванеў.

- Я ў прыбіральні пасьлізнуўся і ўпаў на рукамыйнік, - адрапартаваў Насавец.

- А ў цябе што з тварам, Галімулін?

- Я ўпаў.

- А чаму на грудзях сіняк?

- Я так упаў на гаспадарчым двары.

- Так, Дадакузіеў, Насавец і Галімулін - хлеў чысьціць, памыць, пабяліць. Зразумелі? Ты, басмач, скадзі ў санчасьць, няхай зашыюць брыво, і адразу ў хлеў.

Маёр на хвіліну змоўк і заляпаў мэтрам па халяве.

- Першая шнуроўка крок наперад - руш! Кру-гом! Другі год службы зь лесьвіц ня падае і ў прыбіральнях не пасьлізваецца. Зразумела, чаму. Іншая спэцыфіка. Рукі наперад, далонямі да зямлі. Піліповіч, што ў цябе з кулаком?

- Падрапаў, - адказаў Піліповіч.

- А ў цябе, Кухілава?

- Займаюся каратэ, таварыш маёр, адціскаюся на кулаках.

- У маладых на галовах ты адціскаесься, абрэк недарэзаны, вернесься дадому і ў горы зваліш, га?

Кухілава не адказваў.

- Так, апошні раз папярэджваю, яшчэ раз знайду на маладых пабоі, - нехта паедзе ў дысбат. Я знайду каго пасадзіць. Га, Кухілава, пад трыбунал пойдзеш, зразумеў? І яшчэ, колькі можна казаць, - маёр ляпнуў мэтрам па жываце Дадакузіева, - папругамі па галовах ня біць, і наогул, каб папругамі маладых ня бі-

лі бо спронжкай можна чэрап праламаць. Га, Дадакузіеў, хто табе брыво расьсек? Маўчыш. Ну, добра, і ты праз два гады ў горы да сваіх, ты адкуль?

- З Паміра, - адказаў малады.

- Вось бачыш, твае ўсе сваякі за мяжой, у душманскіх бандах, і ты да іх сабраўся? Га?

- Не, не сабраўся, - чорныя вочы таджыка блісьнулі як памазаныя алеем.

Маёр загадаў роце апрануцца і,зноў пашукаў мэтрам павуціньне на пляфонах.

- Станавісь! Сьмірна! Вольна! Я доўга гаварыць тут з вамі ня буду. Да вас даводзілі загад аб нестатутных адносінах. Я папярэджваю: яшчэ раз знайду на маладых кроў, або хто што каму зломіць - адразу ў дысбат. І каб у гузікі на грудзях не таўклі, знайду сінія грудзі - пад трыбунал аддам. Чуеце, Піліповіч, Мухін, Саўцоў і астатняя хэўра?

- Што, а чаму адразу Піліповіч, - абурыўся "дзед".

- А таму што лыч у цябе, як у ворага народа, я такіх, як ты, наскрозь бачу. Ён тут мне будзе... Пашчэнкі сашчапі! - Маёр заводзіўся з паўабароту, абяцаньняў і мацюкоў у яго хапала хвілінаў на дзесяць. Звычайна пад канец праверкі маёр падводзіў вынікі:

- Бардак, а не войска. Адных абрэкаў і басмачоў тупарылых як дадуць, так і круціся як кочаш. Тут і свае горшыя за чурбаноў, га, Піліповіч, ты ж бульбаш? Наш чалавек! А такая паскудзіна. Ты мне адкажы - хто Радзіму бараніць будзе? Можа мне яна трэба? Ды на хера яна мне здалася, тая Радзіма. А гэтыя душманы толькі чакаюць, каб усіх нас перарэзаць, як баранаў. Так, прызнавайся, Ліблік?

Эстонец Ліблік не адказваў.

- Чухонец тупарылы! Ты ведаеш, Ліблік, ты горшы за чурбана, бо хітрун. Вось маўчыш, сука, а сам думаеш, прыйдзе час, і вашыя "лясныя браты" нас перадушаць на ліхтарах. Га, прадалі Радзіму, аддзяліцца захацелі, сукі чухонскія, а хер вам вось такі, - маёр паказаў Ліблiку сьціснуты кулак. - Я вас усіх навучу Радзіму любіць. Войска - гэта дысцыпліна, падпарадкаваньне загаду. Я навучу цябе выконваць загады. Танкамі сваіх "лясных братоў" сам жа перадушыш, калі загадаюць. Зразумеў?

Эстонец не адказваў. Маёр загадаў праводзіць вечаровую прагулку. Рота выйшла на пляц і па-вайсковаму завыла любімую песьню камбата:

Россия! Родина моя,
Родные березки, тополя!
Как дорога ты для солдата,
Родная русская земля.

"Духаў" вучылі сьпяваць па адпрацаванай мэтодыцы: "Не даходзіць праз галаву - дойдзе праз рукі-ногі". Маладых заганялі на доўгія, звараныя з дзюймовых трубак, брусы. Яны завісалі ў паветры на руках, і афіцэр або "дзед" загадваў сьпяваць завучаныя ноччу тэксты. Уначы звычайна вучылі з зэдлікамі ў выцягнутых руках. Пад час сьпеваў апускацца на зямлю забаранялася. Пасьля пятага-шостага паўтору адной і той самай песьні маладыя пачыналі "паміраць" і валіліся на зямлю, як ватоўкі. У найбольш мужных з-пад пазногцяў ішла кроў. "Моладзь" зрывала галасавыя зьвязкі, але сьпяваць навучыліся ўсе. Шліфавалі і даводзілі да спэцыфічна вайсковага гучаньня галасы "духаў" у су-

працьгазах. Яшчэ ў караньціне пад час "збораў маладога папаўненьня" "духаў" выводзілі на вечаровыя прагулкі з кампляктамі "хіміі" і ў "супрацьгазах". Пасьля невялікага кросу і паўкэмэ гусіным крокам, рукі за галаву, маладым загадвалі сьпяваць не скідаючы супрацьгазаў.

- Кожны баран носіць свае яйцы, - у роспачы вымавіў сяржант Мухін і жэстам паклікаў Лібліка. Малады зьбіраўся класьціся спаць і быў у зімовай споднай бялізьне. Сяржант ударыў яго ботам паміж ног. Ліблік ускрыкнуў і пакаціўся па падлозе, трымаючыся аберуч за ніз жывата. Мухін задаволена паківаў галавой. Ён у вольны час адпрацоўваў на маладых удары каратэ. Кухілава растлумачыў яму, што паміж ног трэба біць не туды, куды звычайна, а трошкі далей, бліжэй да копчыка, каб зачапіць нейкі нэрвовы вузел. Мухін адчуваў, што Ліблікавага вузла ён не зачапіў, але сваім ударам застаўся задаволены.

Калі Ліблік здолеў падняцца, "дзед" ізноў паклікаў яго і папрасіў папрысядаць разоў трыста, каб зьняць боль.

- Што там маёр казаў пра "лясных братоў"? - спытаў Мухін. Ліблік моўчкі прысядаў. Мухін сабраўся быў ізноў ударыць эстонца ботам, але той пасьпеў адскочыць убок.

- Што ты скачаш, чухня сьмярдзючая. Твае браты там Радзіму прадаюць, а ты ў нас тут паскачаш!

Ліблік прысеў, і Мухін ударыў яго ботам пад дых. Малады сеў на падлогу і пачаў задыхацца.

- Дыхай і прысядай, чухня здохлая, цьфу, - Мухін плюнуў на падлогу.

- Муха, досыць дурэць, давай зьбірайся! - сяржанта Мухіна пацягнуў за руку Кухілава.

- Ты знайшоў шпрыц? - зьдзівіўся Мухін.

- Зямляк, санінструктар, даў на пару дзён, - пацьвердзіў Кухілава і паказаў на далоні шкляны, акантаваны нікелем балёнік. У другой руцэ Кухілава круціў голку ў плястмасавым футаральчыку.

- Клас! - разявіў рот Мухін.

"Дзяды" пайшлі ў сталоўку. Па дарозе да іх далучылася пара гледачоў. На электрапліце яны доўга варылі ў кіпені бляшанку з-пад кашы. Потым спрабавалі пастэрылізаваць шпрыц, але пабаяліся, што ня вытрымае ды лопне шкло. Шпрыц і голку прамылі кіпенем, а ў бляшанцы растапілі мутны, як рыбіна вока, вазэлін. Шэра-маціцовы вазэлін імгненна зрабіўся празрысты, але за шкляной, градуяванай абалонкай шпрыца ізноў памутнеў. Цёплы і мутны вазэлін заганялі пад скуру паміж суставаў на кулаку. Спачатку напампавалі правы кулак Мухіну, потым Кухілаву. Мухін лаяўся рускім матам і шкадаваў, што не заслалі "духаў" па гарэлку. Кухілава вытрымаў апэрацыю мужна і з гонарам. Піліповічу не хапіла вазэліну. На кулаках у Мухіна і Кухілавы спачатку зьявіліся тлустыя валікі і закрылі косткі. Праз колькі хвілін кулакі распухлі і неверагодна пачырванелі, адно валікі вазэліну заставаліся штучнага бурштынавага колеру. Далоні ледзь згіналіся. Але "дзяды" супакойвалі астатніх, што ўжо праз тыдзень рукі загояцца, а праз месяц можна будзе выпрабаваць якасьць вазэлінчыку.

Праз пару дзён Кухілава паказваў усім чырвоны кулак і заводзіў адну і тую песьню:

- Вазэлін загоіцца, будзе цьвёрды, як камень. Лепш за любы касьцет. Трахну каго - заб'ю! Лепш пад мой кулак не трапляць.

А ў Мухіна рука тыдзень моцна гніла. Так гніла, што спачатку цалкам аднялася, а потым распухла і галава. Але Мухін піў кожны вечар, руку нікому не паказваў і рэзаць вазэлін не даваў.

Як кажуць, у войску няма параненых і хворых, ёсць жывыя і мёртвыя. Мухін нечакана для ўсіх выжыў, рука загаілася, адно вазэлін пад скурай набыў шэра-зялёныя адценьні і ляжаў не суцэльным валікам, а быў расьсечаны шнарам-восьпінай, што выгніла якраз на суставе сярэдняга пальца.

- Не атрымалася каўбаска, можа яшчэ прынесьці шпрыц і даробім? - цікавіўся ў Мухіна Кухілава. Мухін злаваў, але дарабляць кулак не згаджаўся.

- Рота станавісь! Форма адзежы нумар два, голы торс! - маёр Скотнікаў трымаў у руцэ тоўсты сшытак.

Аголеныя торсы пашнуравалі вакол казармы. Маёр скруціў сшытак у трубку і загадаў маладым апранацца. На "дызель" нікому не хацелася, і "духаў" таўклі так, каб не заставалася сінякоў. Білі пад дых, выпісвалі піва і алускалі ныркі, або проста ботам па назе ніжэй калена. Амаль у кожнага "духа" была разьбітая падкосьніца, і лыткі ледзь залазілі ў халявы. Ліблiку і Насаўцу па нагах ня білі, бо ўсе ведалі, што абодва "духі" гніюць і кожны вечар разам з каўнерыкам мыюць у прыбіральні крывавыя з гноем анучы. Насаўца на сьвяты адпускалі ў санчасьць, але санінструктар не паклаў, а параіў ехаць у шпіталь.

- Трафічная язва, - сказаў санінструктар і дадаў, - трэба ў шпіталь, там цябе адвучаць хварэць, нарэжуць скуры на анучы і залепяць гэтай скурай нагу - можа загоіцца, але наўрад ці. Колькі гніло "духаў" у шпіталі! Ты не перажывай, год праслужыш - і ўсё пройдзе. Блага, калі перад дэмбелем загніеш - інвалідам звольнісься.

Насавец ведаў, што і ў шпіталі не дадуць адпачыць, а ад вайсковых перасадак скуры лёгка зарабіць такіх хваробаў, што і дома не акрыяеш. І, параіўшыся з Ліблікам, Насавец у шпіталь не паехаў.

Маёр прабегся вопытным вокам па другой шнуроўцы і нарэшце ўбачыў тое, чаго шукаў.

- Я так і думаў, пачалося, - маёр разгарнуў сшытак і перапісаў усіх, на кім знайшоў незагоеныя татуіроўкі.

- Давядзецца пісаць лісты бацькам. Га, Рыбавол, ты танк нашто выкалаў? Ты што, Рыбавол, танкіст? Дыбіл ты, Рыбавол, а не танкіст! Я так бацькам і напішу. Ваш сын, радавы Рыбавол Мікалай, замест таго, каб выконваць свой воінскі абавязак, робіць сабе татуіроўкі. Размаляваўся так, што, калі звольніцца, вы яго не пазнаеце. Паведамляю вам пра татуіроўкі вашага сына,каб потым не было прэтэнзій да войска і да камандзіраў. І ўсё! Адчуваеш, Рыбавол, што будзе з тваімі бацькамі? А я напішу, даю слова камуніста, усім напішу, не пашкадую рубель на паштоўкі і сёньня ўвечары ўсім, каго злавіў, адпраўлю дадому лісты.

Болей за астатніх перажываў хлебарэз Ара. І трапятаўся ён не з-за таго, што бацька даведаецца пра татуіроўкі, а таму, што ён выкалаў самалёт, парашутыста і літары "ВДВ", а маёр паабяцаў напісаць: "Ваш сын служыць хлебарэзам, аўтамата ў руках не трымаў і не бачыў, адно хлеб крадзе і жарэ задарма, ды на ўсе грудзі выкалаў: я - дэсантнік, я - дэсантнік!"

Пашанцавала аднаму Кухілаву, бо маёр ніжэй папругі не глядзеў і таму не знайшоў яго ных зорак на каленях. У Мухіна на

адны п[illegible] профіль Спартака, на другім тыгр, падобны да ката [illegible]а, якому прышчамілі хвост. Муха радаваўся, што маёр не зд[illegible] з "дзядоў" нагавіцы і ня бачыў праваслаўнага крыжа, які азд[illegible]яў ягоную худую лытку.

За тое, што тыгр не цягнуў нават на барса, білі маладога мастака Дадакузіева. Спачатку Мухін размаляваў таджыка так, што сам перапалохаўся. Потым супакоіўся; прынес са сталоўкі міску асьлізлага варанага сала і аддаў маладому.

- Еш сала, падла мусульманская. Я з-за чуркі на "дызель" не паеду! Ты ў мяне навучысься маляваць. Ты мне руку сапсаваў! Я цябе самога сапсую.

Саматужных "каратыстаў", накшталт Мухіна, баяліся больш за прафэсыйных баксёраў. Асабліва з-за ўнчакаў: пары саракасантымэтровых драўляных або, як у Мухіна - тэксталетавых, палак, зьвязаных накшталт цэпа, ланцугом. Карацісты раскручвалі палкі так, што сьвістала ў вушах, - выраблялі хітрыя петлі ў паветры, перакідвалі праз плечы, а потым лавілі палку пад пахай, або пад каленам. "Дух" Ліблік доўга ня мог навучыцца вымаўляць цьвёрдае "л", пакуль за справу ня ўзяўся Мухін.

- Скажы - болт, чуеш? Болт! - загадваў "дзед" Ліблiку.

- Больт, - выдаваў Ліблік і імгненна атрымліваў палкай па галаве.

- Я сказаў - болт, а не больт! Я навучу, чухня, цябе па-руску гаварыць.

І з дапамогай унчакаў за адзін вечар навучыў.

У свой час, калі Мухін і Кукілава былі "маладыя", ім тлумачыў службу чэмпіён РСФСР па боксе старшы сяржант Мінгазаў. Вечарамі, пад добры настрой, ён шнураваў "духаў" і, як на трэніроўцы, па чарзе апрацоўваў кожнага з аднолькавай асалодай і на адным тэхнічным узроўні. Лёгка скакаў на пругкіх нагах, лёгка кідаў зацягнутыя анучамі кулакі, і маладыя без асаблівых пакутаў лёталі па казарме і валіліся на падлогу, як падстрэленыя.

Мухін памятаў, як ногі адрываліся ад падлогі, на імгненьне цямнела ў вачах або наадварот, мігцелі бліскавіцы, і ён да раніцы выключаўся, як выключальнік.

Толькі на загад, за месяц да дэмбеля, Вася Мінгазаў перабраў самагону з півам і ашалеў. Пашнураваў "духаў" і раструшчыў сківіцу Саўцову, зламаў колькі рабрынаў Кірсу і назаўжды завярнуў на бок нос Мухіну. Праз месяц маёр Скотнікаў адвозіў Васю Мінгазава ў мястэчка Жыраў на "дызель". Канваірамі паехалі Піліповіч і Мухін. У цягніку маёр засылаў "духаў" з аўтаматамі па піва, потым ставіў іх на варту, і піў разам з Мінгазавым. На прыпынках, калі сьціхалі колы, маладыя прыслухоўваліся да размовы маёра з асуджаным. Падагрэты півам маёр скардзіўся, што ня ведае, як далей служыць, калі такіх выдатных хлопцаў трэба садзіць у дызбат.

- Не, Вася, сківіцу ты дарма Саўцову скруціў, - разважаў маёр. - Ня варта было перад самым дэмбелем так распускацца, трэба стрымліваць сябе. Я разумею, іншым разам трэба ў лыч ботам, бо не разумеюць па-руску. Асабліва чурбаны - узьбекі, казахі... Чухня эстонская прыдурвацца любіць. Але трэба разьлічваць, калі б'еш, каб не забіць. А ты перастараўся, Вася.

- Я й на "дызелі" не прападу, - перабіваў Мінгазаў і цягнуў з рыльца піва.

- Я ведаю, што не прападзеш, - пагаджаўся маёр. - Шкада, вядома, што ты мяне так падставіў. Але што ж зробіш, ты ў мяне лепшым сяржантам быў. Ня ведаю, як цяпер гэтых абрэкаў у руках трымаць.

- Бардак пачнецца, - ківаў галавою Мінгазаў.
Мухін бесперапынна намацваў скрыўленае пераносьсе і шэптам заракаўся Піліповічу:
- Нічога, праз год мы сваё возьмем, але "духаў" калечыць ня будзем, каб я здох, а маладым косткі ламаць ня буду.

Мухін звольніўся старшыною. А яшчэ праз паўгода на батальённых тактычных вучэньнях Дадакузіеў, быццам незнарок, пацэліў штатнай гранатай у камандзірскі ўазік. Разам з камбатам у машыне абвугліўся маёр Скотнікаў.

## АПАВЯДАНЬНЕ ПРА ТОЕ, ЯК ПАСВАРЫЛІСЯ ІВАН ФЁДАРАЎ І РЫГОР ХАДКЕВІЧ

- Пятро, ты бачыў гэтманскую булаву? - спытаў Іван Фёдараў у Пятра Мсьціслаўца, калі яны выпівалі ў маёнтку Заблудава. - Гарна рэч.
Пятро Мсьціславец заклаў нагу за нагу і, счакаўшы, аўтарытэтна зазначыў:
- Я бачыў меч Льва Іванавіча Сапегі - о то інструмэнт!
Іван Фёдараў паківаў галавою й сказаў:
- Не, дружа Пятро, гэтманская булава Хадкевіча - гэта рэч, з такой булавою - ого-го!
- Ага, - сказаў Пятро Мсьціславец, але вытрымаў паўзу й дадаў:
- Я бачыў рызец Францішка Лукіча Скарыны - о то інструмэнт!
Іван Фёдараў паківаў галавою й сказаў:
- Не, дружа Пятро, гэтманская булава - ого-го!
У гэты момант у пакой зайшоў Гэтман Рыгор Іванавіч Хадкевіч. З-пад ягонага кунтуша вытыркаўся ладны кавалак булавы.
- Га-га, - сказаў Рыгор Іванавіч.
- Ой, Рыгор Іванавіч, яка Ваша булава красна, - узрадаваўся Іван Фёдараў і таму загаварыў казьліным голасам.
- Іванка, што ты рачэш на такой мове казьлінай? - адказаў Рыгор Іванавіч.
Іван Фёдараў пакрыўдзіўся на Рыгора Іванавіча й паехаў у Львоў, а Пятро Мсьціславец кінуў вокам на гэтманскую булаву й паехаў у Вільню.
Вось такая гісторыя адбылася ў 1569 годзе.

# МАКСІМ КЛІМКОВІЧ †

ВАРЫЯНТ 2 28.01.89

н а в э л а

Адзін малады чалавек, імя якога было Марцін, ехаў аўтобусам разам з сяброўкай, імя якой цяпер, напэўна, не згадае і сам. Ён скасаваў два квіткі ды з тае прычыны, што мусіў выходзіць пазьней за сяброўку, паклаў абодва сабе ў кішэню.

Неўзабаве сяброўка выйшла, і Марцін сеў на адзінае вольнае мейсца, побач з прывабнай дзяўчынай-брунэткай.

У салёне зьявіўся кантралёр. Дзяўчына расчыніла рыдыкюль і выцягнула два рублі.

- Вашы праязныя дакуманты...

Марцін апярэдзіў дзяўчыну - моўчкі падаў два квіткі.

* * *

З аўтобуса Марцін і дзяўчына выйшлі разам.

- Мяне завуць Стэла.

- Мяне Марцін. Табе ў які бок?

- У цябе ёсьць што паліць? Крамы пазачыняныя...

Марцін падаў нераспачаты пачак цыгарэт - мільгануў надпіс "Мінздраў... папярэджвае..." Квіткі ўпалі на асфальт.

- Мінздраў - гучыць як імя паганскага бога. Я не палю на вуліцы, адсып мне запалак, - яна прачыніла пустую пушку.

Марцін падаў запальнічку.

- Занадта шыкоўны падарунак, - Стэла шчоўкнула нікеляваным затворам. Успыхнуў агеньчык. Запальнічка ў яе руках раптам выдала Марціну сьвячой, - калі нікуды не сьпяшаеш, дык зойдзем да мяне, хаця б кавай пачастую за паслугу.

* * *

На ноч Марцін, вядома, застаўся ў Стэлы.

Ён ляжаў на мяккім дыване. Аголеная Стэла прысела каля яго ды разьліла бальзам у маленькія срэбныя чаркі. Па пакоі разыйшоўся лёгкі водар палыну й альвасу.

- На падлозе будзе вальней, ты ня супраць? - Стэла нязмушана правяла па ягоным целе доўгімі адпаліраванымі пазногцямі, потым нахілілася, доўгія валасы леглі яму на ногі, і Марцін адчуў казытлівы дотык языка.

Маркітаваліся яны моўчкі, але Стэла запабягала кожнаму ягонаму руху, кожнаму жаданьню. Гэта было як у танцы, калі партнёрка дакладна ведае папярэдняе й наступнае па, ведае, дзе трэба адступіць назад, пеpакруціцца, а дзе прагнуцца ды ўскінуць нагу вышэй галавы партнёра.

- Ты прыйдзеш заўтра? - перш, чым заснуць, спыталася Стэла.

- Табе на гэтым залежыць?

- Я баюся застацца сама, бо заўтра ён павінен зноў прыйсьці і будзе прасіць запалак,а агонь з хаты нельга пазычаць нікому.

- Я прыйду, абавязкова прыйду.
- Не забудзься на запальнічку,яна пад маёй падушкай.

* * *

Марцін прачнуўся першы. Прыемная стома адчувалася ўва ўсім целе. Стэла спала. Ён крадком адхінуў коўдру, пацалаваў Стэлу ў плячо і прашаптаў:

- Я прыйду заўтра, абавязкова прыйду, абяцаю.

На пляцоўцы тварам да вакна стаяў лысы, з галавой як чэрап мужчына ў чорным палітоне. Ён не павярнуўся да Марціна, калі той праходзіў паўз яго, але спытаў:

- Агню ня знойдзецца?

Марцін апусьціў руку ў кішэню, але запальнічкі там не было.

Марцін выйшаў на двор ды зірнуў на вокны пад'езда. У іх было пуста.

* * *

Увечары Марцін не прыйшоў, не прыйшоў і на наступны дзень. Толькі праз тыдзень набыў кветкі й падаўся да Стэлы.

У двары яе дома стаяў кароткі аўтобус з чорнай жалобнай паскай, чакаў духавы аркестар, тулялася колькі цікаўных. На ганак выйшаў лысы, з галавой як чэрап мужчына ў цёмных, на палову твара, акулярах, макнуў аркестрантам рукой і прытрымаў дзьверы. Пад пругкія гукі трубаў з ганку сыйшла пахавальная працэсія. У плыткай труне з кутасамі, абабітай ядвабам, ляжала Стэла.

Калі труну засоўвалі ў нізкі люк аўтобуса, раптам заклініў ральганг. Марцін падыйшоў, паклаў Стэле на грудзі кветкі й паправіў рог труны, які ўпёрся ў рыдлёўку. Ён так нізка скіліўся, што шчакой крануў нечакана цёплую Стэліну руку й згледзеў пад няшчыльна прыплюшчанымі павекамі вочы, што былі скіраваныя ўпрост на яго.

Труна плаўна ўехала ў салён, і Марцін толькі пасьпеў заўважыць, як бліснуў пад падушачкай нікеляваны затвор ягонай запальнічкі, ды пачуў за сьпінаю прыцішаныя галасы:

- Яна перад сьмерцю прасіла, каб на могілках хавалі. Крыматорыя, казала, баюся. Нібыта ня ўсё адно ёй зараз.

- Як бычыш, ня ўсё адно.

* * *

Увечары Марцін ужыў дубальтовую дозу соннага. Прачнуўся ён пасярод ночы. Убачыў, як варухнуліся фіранкі, і з падваконьня бязгучна саскочыла агаленая Стэла, у руцэ яна трымала запальнічку. Агеньчык асьвятляў яе мармуровае цела.

Марцін хацеў крыкнуць, але ня здолеў. Стэла падыйшла да ложка, сьцягнула коўдру. Марцін адчуў дотык халодных вільготных вуснаў, страціў прытомнасьць, але недзе на мяжы явы і мроі пачуў прыцішаны Стэлін голас:

- Я прыйду заўтра, абавязкова прыйду...

* * *

Прачнуўся Марцін на падлозе. Стома скоўвала рухі.

Удзень ён пайшоў да касьцёлу, але дома начаваць усё адно не наважыўся, і падаўся да сваёй былой сяброўкі.

Яны трохі пазабаўляліся, якраз столькі, каб хутка заснуць. Але й тут усё паўтарылася.

Пакуль Стэла ішла ад вакна, Марцін трос сяброўку. Але тая толькі нешта мармытала, ускрыквала й ніяк не магла прачнуцца. Стэла спынілася, прыўстала на дыбачкі й грэбліва агледзела цела дзяўчыны.

– Стэла, – сказаў Марцін, – не прыходзь болей, я ня вытрымаю, Стэла.

Але нябожчыца адмоўна кітнула галавой і правяла пазногцямі па ягоным целе. Апошняе, што пачуў Марцін, калі яго датыкнуліся халодныя Стэліны грудзі, было:

– Я прыйду заўтра, абавязкова прыйду.

* * *

Марцін зноў прачнуўся на падлозе. Ад стомы ён ледзь мог паварушыцца, а калі дайшоў да люстэрка, дык убачыў, што ягоныя вусны пакусаныя да крыві. Увесь наступны дзень ён праседзеў у бары. Калі бралася на ноч, і ўжо сыходзіла апошняя кампанія, за столік да Марціна падсеў бармэн:

– Час зачыняць. Што ж ты сабе сяброўку не знайшоў за цэлы дзень? Зараз бы не самому давялося начаваць.

Марцін адказаў:

– Во, дзе мне гэтыя сяброўкі! Тут ад былой пазбавіцца не магу, а ты кажаш новую шукаць.

– Кінь яе. – Бармэн сьцепануў плячыма. Для яго, відаць, праблемаў такога кшталту не існавала наогул, – кінь і ўсё, з канцамі.

Марцін дапіў бальсан.

– Ня так усё проста, яна не звычайная жанчына, чаго не рабіў толькі – нішто не дапамагае. Вось паслухай, я распавяду ўсё, як было, мо што параіш?

Бармэн слухаў уважліва і, відаць, не сумняваўся ў праўдзівасьці гісторыі.

– Гэта ўсё? – спытаў ён нарэшце, – я дапамагу, са мной было такое самае, кожную ноч цешча-нябожчыца панадзілася хадзіць, унучку глядзець, выцягне шыю й цераз нас з жонкай у дзіцячы ложак зазірае. А жонку ну ніяк не пабудзіць, сьпіць як забітая. Мяне сусед навучыў. Болей ня ходзіць. Ведаеш, як прыйдзе твая палюбоўніца, дык ты ёй і скажы, – тут бармэн прыцішыў голас і сказаў самае надзейнае закляцьце, – а ўсе гэтыя сьвечкі, крыжы й сьвянцоная вада – лухта – не дапаможа.

Марцін задумаўся, ляснуў рукою па стале ды сказаў:

– А ты маеш рацыю!

* * *

Калі Марцін прыйшоў дахаты, то адразу ж і лёг спаць.

Калі зьявілася Стэла, ён упэўнена ўстаў з ложка й спакойна сказаў:

– Ідзі на х..! На х..., я сказаў.

Стэла спынілася, бездапаможна апусьціла рукі і растала ў паветры. Больш яна не прыходзіла ніколі.

Першы варыянт 08.01.89.

# Віленскія гісторыі

## 1.

## ПРА ВАЯВОДУ КНЯЗЯ ДАНІІЛА МЫШЭЦКАГА

У лета ад нараджэньня Божага 1660, на пятым годзе акупацыі Вільні рускімі войскамі пад даводствам князя Юрыя Даўгарукага, пасьля двух мораў і наведваньня сталіцы Вялікага Княства Літоўскага маскоўскім царом Аляксеем Міхайлавічам, у закінутым Катэдральным касьцёле сьвятога Станіслава раптам зазьзяла сьвятло ва ўсіх алтарах і асьвятляла іх колькі начэй запар.

Даводца расейскага войска, князь Даўгарукі слушна палічыў гэта благім знакам і сьпешна адступіў, пакінуўшы ў горадзе слабы гарнізон пад начальствам ваяводы князя Данііла Мышэцкага, у якога было некалькі даравальных, як для чалавека вайсковага, заганаў:

па-першае, любіў ваявода падглядаць за жанчынамі, калі яны мыюцца ў лазьні або калі ідуць да ложку;

а па-другое, любіў добра пад'есьці, а як усе сядалі да стала, то адразу ж пачынаў распавядаць пра тое, як грамадзянін Мінін з князем Пажарскім Маскоўскі крэмль аслабанялі ад польска-літоўскіх акупантаў, а як аслабанілі, то ўбачылі там бочкі з распарцаляванымі засоленымі ў лёку трупамі уланаў ды гусараў, якія захопнікі па прычыне вялікага голаду елі пад час аблогі. Ва ўсіх гасьцей, вядома, ад такіх размоў кус мяса станавіўся ўпоперак горла, і толькі ўлюбёны князеў кухар Антошка, каторы зь ім ва ўсіх паходах поруч быў, пачынаў выпытваць, а ці шмат солі ў тыя бочкі сыпалі, і ці клалі туды лаўровы ліст або маяранак, і якім воцатам залівалі - вінным ці яблычным?

Але ж была ў ваяводы і адна недаравальная загана - ён сьвята верыў у тое, што маскоўскае войска хутка вернецца, настолькі сьвята, што нават стрэльчых сваіх пераканаў у гэтым.

Застаўся князь пры сваім пераканаyньні нават тады, калі абозны гетман літоўскі Міхаіл Пац з войскам Вільню аслабаніў, а самога Мышэцкага з рэшткамі гарнізону абклаў у верхнім замку. А паколькі замак быў добра ўмацаваны і стаяў на высокай, стромай гары, то вырашыў Пац ня лезьці на сьцены, а пачакаць, пакуль ваявода сам ня здасцца.

Але ж правіянту ў замку было дастаткова, ды і ўлюбёны кухар Антошка ўратаваўся разам з ваяводам. Вось і не сумаваў князь Мышэцкі з тае прычыны, што ня мог з гары ні Вільні, ні войску варожаму вялікае крыўды ўчыніць і па-ранейшаму распавядаў за палуднямі сваю заўсёдную гісторыю пра адсечаныя галовы ў бочках зь лёкам. А не сумаваў ён яшчэ й таму, што прыхапіў з сабою з каралеўскага палацу былую ўласнасьць караля Яна Казіміра - падзорную трубу, і па вечарах, як толькі ў віленскіх палацах запальваліся жырандолі, сядаў перад байніцай і вывучаў начное жыцьцё сталіцы Вялікага Княства. Больш за ўсё любіў ён назіраць за самім Янам Казімірам, што ўжо пасьпеў вярнуцца зь Сілезіі і далучыўся са сваім войскам да абознага гетмана. Адно нэрвавала ваяводу манэра караля дзьмухаць на сьвечкі ў самы цікавы момант.

Здымаў сукню якой шляхцянцы Ян Казімір як і належыць, пры

сьвятле ды не раней, чым тая яго разьбярэ. Адыходзіў кароль, дзівіўся на аголеную жанчыну і гасіў сьвечкі. Тады назаўтра раззлаваны Мышэцкі, ледзь толькі віднела, загадваў набіваць гармату і ўласнаручна страляў па тых кварталах, дзе зь вечара бачыў караля, потым хапаў трубу й разглядаў перапалоханых кабетаў, што бегалі па вуліцах у адных кашулях, а то й бязь іх.

У такіх забавах прайшло восем месяцаў. Але аднаго ранку кухар Антошка паведаміў ваяводу, што харчу ў замку болей няма, затое ёсьць яшчэ два мяхі солі й дзесяць бочак пораху, а порах зь іх можна і высыпаць. Ваявода нічога не адказаў, і зачыніўся ў пакоях разам са сваім апошнім суцяшэньнем - падзорнай трубой.

Увесь вечар глядзеў Мышэцкі на вокны каралеўскага палаца, але ў тыя днямі пасьпелі ўставіць вітражы, а таму нічога вартага так і ня згледзеў. Апоўначы ён нарэшце наважыўся - запаліў кнот і падаўся ў сутарэньні, каб узарваць сябе разам з замкам і гарнізонам, ды каб абломкі абрынуліся на каралеўскі палац. Але перад самымі бочкамі яго перанялі ўласныя стрэльчыя на чале з улюбёным кухарам Антошкам, адцялі кнот, закруцілі рукі і выдалі абознаму гетману літоўскаму Міхаілу Пацу, за што і атрымалі дараваньне ад Яна Казіміра.

Вайсковы суд прысудзіў ваяводу да страты сьмерцю, што і адбылося на плошчы перад Катэдральным касьцёлам сьвятога Станіслава. Перад стратай Мышэцкі пакланіўся ў бок каралеўскага палацу, а калі яму заўважылі, што Яна Казіміра там цяпер няма, то адказаў, што разьвітваецца завочна, а таму дастаткова пакланіцца й таму мейсцу, што было некалі асьвечана каралеўскай прысутнасьцю.

Вырок суда выканаў уласны княскі кухар Антошка - адсек ваяводу галаву. Той жа Антошка прыўлашчыў сабе падзорную трубу, аднак карысьці зь яе ня меў, бо каб зазіраць у чужыя вокны, трэба сядзець вышэй ікняга ўзроўню.

17.01.89.

# Таццяна Сапач

ВЕРШЫ ДА САВЕЛІЯ

* * *

Пойдзем, Савелій, туды, дзе ні сьцежак, ні сьцен...
Там толькі вецер сьпявае на восеньскай сцэне,
І - сярод шэрых - адзін фіялетавы цень
Не падымаецца болей са зьдзёртых каленяў.

Пойдзем, Савелій! Разбурым старое жытло,
Пусьцім на вецер багацьце і гучную славу,
І непарушны парушым спакой і палон,
І атрымаем на волю вялікае права.

Пойдзем, Савелій! - і будзе нам лёгка і проста
Вольнымі жыць на зямлі, дзе ні сьцежак, ні сьцен,
Дзе толькі вецер сьпявае пра вечную восень,
Дзе заблукаўся адзін фіялетавы цень.

* * *

Аднойчы, ідучы звычайным шляхам,
зрываючы салодкія сьцяблінкі
смарагдавай пасьля дажджу травы,
ты раптам прыгадаеш мой радок,
і ў тахт хадзе пачнеш яго сьпяваць,
і радасна задзівісься: ого!
а песенька нішто сабе выходзіць...
Дальбог, у тым пустым, нікчэмным сьвеце,
дзе кожны з нас сьпявае сам сабою,
няма хвіліны даражэй за гэту.
Тады чаму, спытаеш, плачуць людзі,
што там і тут сустрэліся табе?
Савелій, дружа, растулі павекі -
няўжо ты не пазнаў сваіх сяброў?..
На ўсіх адна дарога ў строгі храм,
там споведзі высокае сьвятло.
Але туды няўмольна не пускае
адступнікаў прадажных і паскудаў
маёй любові брама залатая.

Цябе даўно я ведаю,
праходзь.

*  *  *

Вядома, мілы дружа, я жыву
у доме, дзе усё здаецца дзіўным.
Сюды не залятаюць матылі
і ластаўкі пад вокнамі ня лепяць
сваіх, нібы шкарлупкі, крохкіх гнёздаў.
Калі засохла бедная герань,
я выкінула з клеткай канарэйку,
затое згатавала тлусты крупнік -
яго прасіў прад сконам грозны муж.
Вядома, мілы дружа, тут няма
партрэтаў у цяжкіх драўляных рамах,
замест сьцягоў лунае на гаўбцы
блакітная самлелая бялізна,
а слуцкі габелен праела моль.
Сюды ўначы завітвае хвароба
і носіць па кутах тэмпературу
і пакідае па сабе салодкі пах
цім'янаў, валяр'яны і нуды.
Вядома, дружа, вам утульна тут -
вы мне зямляк
ці колішні знаёмец,
і мой адповяд вам ня будзе дзіўны:
я не люблю вас.
Я люблю Шапэна.

*  *  *

Таму што патрэбнае слова - нішто,
калі яно позна прыходзіць,
таму што мінаюць гады і гадзіны,
а нашае мейсца - старое,
таму што няма дзівосьней пары
за брыдкую, брудную восень,
таму што блізкае полымя клёна
здаецца з вакна сапраўдным,
таму што я не дачка і ня сын,
а хто я - ніхто ня скажа...
Таму што ў добра пашытай спадніцы
галоўнае - доўгія ногі,
таму што гэткае глупства кажа
той, каму можна верыць,
таму што лісты прыходзяць ня часта
і вечар мой не кранаюць,
таму што зямля, на якой стаім,
ужо амаль што ня дыхае,
таму што няшмат засталося сэрца,
таму што дарога - за небакрай, -
вы мяне не пакінеце.

* * *

Прыходзьце, калі сьцямнее,
ці сьвята будзе, ці будзень,
калі ў азалелых прысадах
прачнуцца на ноч ліхтары,
калі я астыгну ад клопатаў,
пазногця майго ня вартых -
глытком цыгарэтнага дыму
адзначу завершаны дзень...
Прыходзьце - і ўволю наплачцеся,
а я адшукаю рыфмы
да слоў "перестройка" і "гласность".
Я ведаю, вы ня любіце
маіх грамадзянскіх строфаў,
ды ваш чырвоны аловак
зь іх болей ня выпусьціць кроў.
А сёньня прыходзьце прыцемкам,
прыходзьце ў сьлязах і ў возграх,
іх вам падатрэ старанна
мой ветлівы сакратар:
"... но знаете, я сожалею, -
Татьян-Николавна заняты,
сейчас у нее совещание...
Зайдите, товарищ, завтра".

# Ўгар Бабкоў

IМПРЭСII

## 1. Вежа і полымя

Сярод сімвалаў, пакінутых людзьмі, адзін з самых неўміручых вежа.

Напачатку, у мудрым дзяцінстве чалавечага роду, яна сталася спробаю злучыць зямлю й нябёсы, узыйсьці на неба, паяднаць людзей і багоў у сьвятым веданьні еднасьці ўсяго. Невядома, чаго там было болей: наіўнасьці, неразуменьня чалавечае прыроды ці гонару й гвалту... Угневаныя багі давялі, што зямны лёс - множнасьць і найвышэйшая мудрасьць - мудрасьць пакоры, прыняцьця гэтае множнасьці.

Так кажа паданьне. Але паданьне сьвядома зацямняе сапраўдны сэнс.

Бабілёнская вежа была пабудаваная!

Доўгі й цяжкі шлях, тысячы прыступкаў, сотні пакаленьняў леглі ў зямлю, і вось, нарэшце, ён, першы, Гэрмес Тройчывялікі.

Ён - першы чалавек - Адам - узыйшоў на неба й жыў побач з багамі. Але ж - далей кажа паданьне - чалавечая душа, Ева, ня ўгледзела, не знайшла сябе ў люстэрку нябёснага блакіту. Там, дзе мусіў быць твар, у жорсткай бясконцасьці зеўрала Нішто. I яна сыйшла на зямлю, сьвядома абрала зямное - славуты яблык. Сярод халоднай беспрытульнасьці палкія парасткі пакуты - полымя.

Відаць, менавіта тады вежа ўрасла ў зямлю: пасівералае каменьне бараніла, камяні дарылі цяпло чалавеку, трываласьць сярод зьменаў, спакой. Сярод бясконцасьці сусьвету - адваяваны кут чалавечага веку.

Ды, як і ўсё на сьвеце, вежа старэла, губляўся яе патаемны сэнс, - тое, што для нашых дзядоў было цяплом і прытулкам, для нас - этнаграфія, старажытнасьць, музэйны экспанат. Зноў і зноў гартаю слоўнікі, там ёсьць значэньне, але няма патаемнасьці. Што ж гэта такое сёньня - вежа? Калісьці гэта быў шацёр, рухомы будынак, што перавозіўся зь мейсца на мейсца ў бясконцых вандроўках.

А можа гэта толькі іншая назва адзіноты, адчужанасьці, адасобленасьці? Вежа, мураваньне якой складзена з бясконцых хвілін, ахвяраваных самаўпэўненаму, неталерантнаму часу, - таемная душэўная забудова, выспа ў душы. Мейсца, дзе ты сам-насам з сабою, дзе цябе не дасягае грукат звонку, мейсца, дзе ты ёсьць.

Неразмовы пра палітыку, нечытаньне газэтаў зранку, - першыя камяні ў падмурак тваёй вежы. I вось тое, што раней турбавала, пакідала ў балючым зьнібеньні, праплывае як пахмурны восеньскі дзень за вакном пакойчыка, пусты й трывожны. Рахункі з часам, адплата за хлусьню, канфармізм, крывадушнасьць...

Але надыходзіць пара, і разумееш, што патаемны сэнс усіх

душэўных забудоваў - крохкі агеньчык, што заўсёды жывы за мурамі. І вось гэта ўжо не агеньчык, а нязгасны евангельскі агонь, што палае ў нашых душах, які мы асьцярожна разьдзьмухвалі, у які мы паверылі, які стаў намі.

Бяз варты й аховы, безабаронныя, ідзем у ноч. Адныя сярод сьцюжы й цемры, сярод бязьлітаснай начной прасторы. Толькі нязгасная, палымяная вера ды спадзяваньне паэта:

Згадае прырода пра пяшчотную сваю ўладу.

## 2. Акутагава

Гэтыя некалькі словаў прысьвечаныя Акутагаву Р'юноскэ, японцу, якому перад сконам (ён скончыў жыцьцё самагубствам у 1927 годзе) трызьніліся зубчастыя колы.

Спачуваньне вымушае мяне трымацца ўдалечыні ад яго. Я баюся парушаць яго чулую й хваравітую самоту; лёс склаўся так, што самае добразычлівае спачуваньненазаляе й адно ўзмацняе трызьненьне, што мучыла яго апошнія гады жыцьця.

Цеплыня, зь якой я заўсёды думаю пра яго, ні ў чым не ўгрунтаваная. Дзіўны ягоны сьвет жыве ўва мне болей як спакуса, я зрэдку яго перачытваю і заўсёды пачынаю з "Жыцьця ідыёта".

Амаль што не запамінаючы сюжэтаў і дэкарацыяў, пераглядаю старонкі, спрабую знайсьці іншае, але заўсёды адно: бясконцая пакута.

Вялікі Сайгё пакідае ўтульную пэўнасьць палацаў дзеля бяздомнасьці й вандраваньняў. Няўжо й сёньня, каб пісаць, пісаць па-сапраўднаму, мусім адкінуць звыклае прыняцьце сьвету й пайсьці ў старую краіну болю ды пакутаў? Ня ведаю. Але пасьля Акутагавы ўсялякае апавяданьне, ўсялякая мэтафара, якая не пражытая ці пражытая крывадушна, пакідае ў маёй душы хіжую пляму сытасьці.

Чалавек жыў. І няўжо ўсяму гэтаму (О, Божухна!) вынікам - невыразнае філялягічнае балбатаньне, якое вызначае мейсца чалавека ў гісторыі літаратуры. Няўжо тое мейсца, адкуль ён сёньня глядзіць на нас, менш значнае, менш сапраўднае й менш лучыць нас адно з адным?

Шлях: з прасьветленасьцю й зубчастымі коламі. Адданасьць. Жалезныя боты вандроўніка й засяроджаная падрыхтаванасьць да сьмерці.

## ФУГА ЦЕМНАГА ЧАСУ

Кубак самоты ў гатэлі на абрус паркалёвы
праліўся, вочы твае - глыбейшыя за нішто
абрынуліся рукі ў шал, за вокнамі
сьмерць сьпяваюць натоўпы
пацьвелім ціхае сьвятло, а потым
зоймемся каханьнем, вочы твае
цямнейшыя за ноч, нібы сьвечы
сьвецяцца грудзі...

Кубак самоты ў гатэлі ў шал паркалёвы
абрынуўся, рукі твае - халаднейшыя за нішто
пасьцеляць сьмерць нібы песьню
паркалёвыя людзі, сярод глыбокае ночы
пацьвелім час састарэлы, а потым
зоймемся каханьнем, грудзі твае
няхай мне сьвецяць і сьвечы
гарaць аб тым, што няма нас...

Кубак самоты глыбейшы ад нішто праліўся
ў ноч паркалёвых душаў, адвечна
вочы твае ў шале каханьня, песьні начныя
сьмешных людзей гукаюць
адвечна, адвечна каханьне, назаўсёды
вочы твае, рукі, грудзі і ўлоньне, няхай нам
дапамогуць сьвечы, а потым
сьмерць і гатэль і кубак самоты... ЭННІС!

* * *

За небакраем Эўропы: у акопах заціхла туга
Людзі, нібыта пасьля хлярaформу, жывуць-паміраюць
Ціхае літаньне: ня спаць
Цёмныя, начныя словы на паперы згараюць

Кроплямі маляванага раю сьцякаю з-пад рук
Існаваць, існаваць
Ісьці тваімі шляхамі, забітая зьнічка Эўропы
Глядзі:
Нібы вечнасьць у шашкі, гуляюць у сьмерць далакопы

За небакраем паэзіі: ноч, ханскі патруль
Далакопы дзеляць вопратку, колькі стагодзьдзяў?
Ах, сьвятая нянавісьць, толькі тут мы дома
Сярод пахаваных магіл і забытых багоў

* * *

эміграем
у адзіноту
сівыя дрэвы

* * *

На пошукі сапраўднага дому адыходзіць ён
апрача восені згаданай і неба вачніц
апрача пошапу азяблых рамёнаў
апрача воглых кроквау старых камяніц

на пошукі сапраўднага сьвету дзе галеч рай
дзе восеньскаю лістотай колішні улюбёнец адам
пасыпае сьляды хіжых зграй
правячых балаганны ашчар мажорным ладам

дзе ніштожыць сьляпое нішто адвечны закон
на пошукі сапраўднага болю О толькі душа
пачуе яго нямотны стогн
і раскіне пасьвятлелыя рукі... абапал крыжа

## 1 СТУДЗЕНЯ 1982 Г. ІМПЭРЫЯ

Тлусты розум напяў блазнаў каўпак
душа мроіць, верзіць сярод прарочых сьнягоў
пакойчык, 10 на 10, няўцямны знак
сьпелым болем пазначаны джалы сьцягоў

не глядзі навонкі, лепей - хочаш - кавы згатуй
хочаш - выйдзі, пастой ціха сярод мар
цыгарэту выпалі, ці - енкам - сьвет уратуй
апантаны, пачырванелы ад натугі абшар

а хочаш - запальнічкай чыркні цяпло
пагрэй тых, хто пад шынамі чорных марусь
цябе чакае, 10 на 10, болем сон замяло
покуль тут, ды губам мроіцца-мроіцца... БЕЛАРУСЬ

# Мікола Раманоўскі

ПРАКТЫКАВАНЬНЕ ЯН-СІНЬ

і м п р а в і з а ц ы я

"Стэла ста ерогліфаў" славутага кітайскага даўша Люй Дунбіня раіць: "Дзеля ўтаймаваньня сардэчнага – трымацца безучыннасьці". Адгэтуль вынікае ідэя медытатыўнага практыкаваньня Ян-сінь, скіраванага на ўпарадкаваньне сьвядомасьці.

Для заняткаў патрэбна каляровая фотакартка альбо паштоўка з адной-дзьвюма буйнымі, на ўсю картку, кветкамі (найлепей белымі півонямі) на фоне зялёнае лістоты. Паўзірайцеся перш на паштоўку й запомніце вобраз кветак. (Калі ўжо добра памятаеце, дык можна не глядзець, а проста ўзгадаць). Потым павольна заплюшчыце вочы ды ўяўляйце сабе гэты вобраз, а тым часам тройчы прамоўце працягла "хэ-э-э" (шум паветра на выдыху). Па-кітайску тут маецца на ўвазе слова, што азначае злучэньне, аб'яднаньне – у сэнсе спалучэньня вобраза з сьвядомасьцю; гэты сэнс, як у аўтатрэнінгу, трэба ўсьведамляць. Уяўляйце без напружаньня, лёгка, хоць бы вобраз і быў невыразны. Неўзабаве вобраз прападзе, і сьвядомасьць пазбавіцца ад канкрэтных думак. У гэткім стане й трэба застацца. На заканчэньне яшчэ раз узгадайце сабе вобраз кветак, і можна расплюшчыць вочы.

Падчас мэдытацыі трэба, каб кончык языка зьлёгку дакранаўся да альвэолаў (цьвёрдага нёба). Важна як найглыбей расслабіцца. На дыханьне зьвяртаць увагі ня трэба. Займацца можна ў любым мейсцы, у любой паставе, абы крыху вольнага часу – хоць у аўтобусе па дарозе на працу. На пэўны эфэкт можна спадзявацца, калі займацца штодня й калі самы доўгі занятак на працягу дня дасягае 5-10 хвілінаў. Увогуле даўжыня занятку адвольная: хоць 3-5, хоць 15-20 хвілінаў.

Некалькі заўвагаў:

1. Пачаткоўцы звычайна намагаюцца ўявіць вобраз кветак як найвыразьней. Ад гэтага сьвядомасьць напружваецца, пасьля занятку галаву расьпірае, матылічыць, могуць зьявіцца й іншыя нядобрыя адчуваньні. Каб расслабіць сьвядомасьць, трэба проста ўяўляць, не канечне надта выразна.

2. Шмат у каго на першым месяцы заняткаў могуць здарацца галюцынацыі – сьветлавыя або каляровыя плямы, розныя вобразы й г.д. Ня трэба ані падабаць прыгожыя галюцынацыі, ані гідзіцца брыдкіх, адно расслабіць цела й сьвядомасьць ды захоўвацца ў ранейшым стане.

3. Асацыяцыі ды развагі, якімі звычайна запоўненая чалавечая сьвядомасьць, падчас мэдытацыі лішнія. Калі іх няма, гэта й ёсьць "жу дзін", уваход у спакой. Хай пачуцьці самі па сабе паўстаюць і зьнікаюць, ня трэба ў гэта ўмешвацца.

4. Разам з Ян-сінь можна займацца дынамічнымі практыкаваньнямі – як зьнешнімі, так і ўнутранымі стылямі у-шу (у тым ліку і тай-дзі цюань), але нельга сумяшчаць яго з дзы-фа гун ды іншымі статычнымі практыкаваньнямі, г.зн. такімі, якія выконваюцца ў расслабленьні ды ў нерухомасьці.

# Мроя

п е с ь н і

## ЁН ЯШЧЭ ВЕРНЕЦЦА

Ён мне сказаў: "Зашмат пагарды
У сьвеце, ні на што ня вартым,
Дзе у паветры гіне слова,
І ад імкненьняў - толькі стома".

Ён мне сказаў: "З мяне даволі!"
Сказаў, ня вернецца ніколі,
І не спыніць яго хады.
Ды я спакойны, як заўжды.

Ён яшчэ вернецца.

Ён мне сказаў: "Нашто сьвітанак,
Калі штодня адны туманы,
Калі штодня дажджы бясконца,
І ўсё адно ня бачна сонца.

Нашто Купала і Скарына,
Калі ўсё роўна ўсё загіне?"
Ды я лічу ўсё гэта жартам,
Бо ведаю яго характар -

Ён яшчэ вернецца.

## ЗОНДЭРКАМАНДА

Вачамі б'юць, як салдаты з гарматы -
Не трапляй пад прыцэл, небарака!
Твар усьміхаецца губной памадай,
Нават словы - пад слоем лаку.

Яе мужчыны маюць машыны,
А ў цябе ні граша за душой.
Яе цікавіць усё, што зараз модна,
Яна б магла пайсьці з табой.

Зондэркаманда - армія любові.
Зондэркаманда - служба ўначы.
Зондэркаманда - жалезная логіка.
Зондэркаманда - зграя жанчын.

Ёй падабаюцца іншаземцы,
Яна ўсім целам змагаецца за мір.
"Ямаха", "Блэк Хоз", "Уінстан", "Сэйко" -
Яна не заблытаецца ў назвах фірм.

Яна штодня пры поўным узбраеньні,
Усё, што трэба, знаходзіцца пры ёй.
У яе вачох зьяўляецца натхненьне,
Калі апускаецца ноч над зямлёй.

Зондэркаманда - армія любові...

## АМБІЦЫІ

Прагнуць прызнаньня шматлікія геніі,
Карлікі лічаць сябе гігантамі.
Валацуга крычыць: "На калені!" -
Ён сябе бачыць вялікім магнатам.

Надрываюцца лаўрэаты,
Цягнуць у неба свае дыпломы,
Мастак-дальтонік лаецца матам,
Ён хоча быць сусьветна вядомы.

Амбіцыі...

Стары альфонс крычыць пра каханьне
І прэтэндуе на ролю знаўцы.
Паэты змаганьне вядуць за званьні,
Цягнуць да мэты дрыжачыя пальцы.

Амбіцыі...

Сотні ратоў, скрыўленых крыкам,
Сотні вачэй, сотні ілюзій.
Пнуцца крычаць, лаюцца брыдка
Хворыя маніяй велічы людзі.

Кожны мец зубы вострыя хоча,
Зубы - гэта надзейная зброя.
Божа, ня дай напаткаць мне ўночы
Гэтай вайны герояў.

## ПЕРАМОЖЦЫ

Мы гулялі ў вайну кожны дзень са сьвітанку,
Мы страляли з драўляных гарматаў па шклянках,
Мы давалі сабе ўзнагароды і званьні,
Не было ў сьвеце тых, хто цягацца мог з намі.

Пераможцы...

Мы зьмянілі цукеркі на цыгарэты,
Мы забылі панамы, надзелі бэрэты,
Толькі болей сабе мы ужо не належым,
Ад кагось ды чагосьці адчуўшы залежнасьць.

Пераможцы...

І паўзком па гразі кожны дзень са сьвітанку,
Нас раўняюць зь зямлёй кулямёты і танкі,
Пасьмяротна ідуць ўзнагароды і званьні.
Тут услодыч вайна нагулялася з намі...

## ПАЛЯВАНЬНЕ НА ВЯДЗЬМАРАК

Сёньня мэта апраўдвае сродкі,
Дык сьцеражыся, вар'ят.
Ты сабе незалежнасьць дазволіў,
Мы сабе дазваляем гвалт.

Паляваньне на вядзьмарак.

Мы ня здольны спакойна ўспрымаць
Думкі твае і выгляд.
Час прыйшоў, і сёньня - наш дзень.
Мы прынялі твой выклік.

Паляваньне на вядзьмарак.

Уздымем нашыя лозунгі ў неба,
Нас апраўдаюць законы.
Сёньня суд над непатрэбнымі,
Мы не кранаем спакойных.

Паляваньне на вядзьмарак.

# Уладзімір Сьцяпан†

КОЛЕР ХАКІ

Нашы ложкі былі побач - на другім ярусе, насупраць вялікага вакна, зь якога ўвесь час цягнула сьцюжай. За вакном гайдаўся ліхтар, і ягонае сіняе нежывое сьвятло перашкаджала спаць. Нават калі на вуліцы было ціха, ліхтар пагойдваўся, і сьвятло паліравала нашыя змарнелыя твары.

- Гэй! Пятак, раскажы, якія ў тваёй Касі грудзі! - загадваў сяржант і штуркаў нагой у панцырную сетку.

Алесеў твар палатнеў, рабіўся аднолькавага колеру з падушкай. Пляма на шчацэ цямнела.

- Ты што, ня чуеш? Пісьменьнік?

- Ён успомніў і язык праглынуў!

- Сяржант, глядзі, каб твой салдат сьлінай не задушыўся. Відаць, успамінае!

- Вялікія й мяккія, а, Пятак?

- Пятак, а ты спрабаваў на раялі?

- Склізка.

У казарме рагаталі. Мой сусед маўчаў. Ягоныя вочы былі сухія й бліскучыя. Алесем яго звалі толькі некалькі чалавек з нашага восеньскага прызыву, астатнія карысталіся мянушкай Пятак. Мянушку далі з-за плямы, памерам у пяцікапеечную манету, якая цямнела на правай шчацэ майго суседа.

- Ты напішы ёй, каб прыехала, - чулася з цемры. - Мы пусьцім цябе на КПП. Хоць паціскаеш як сьлед, а то відаць, забыўся... - ізноў рагаталі ў розных кутах казармы.

- Ты што, заснуў? - штурхалі ў ложак.

- Ён сьпіць? - пыталіся ў мяне.

- Сьпіць, - адказваў я.

У казарме яшчэ з паўгадзіны ішлі размовы пра прыгажосьці жаночага цела, віно, ежу, бойкі, расказвалі анекдоты.

Алесь ляжаў з адкрытымі вачмі: нерухомы, як нежывы. Сіняе сьвятло рабіла твар ненатуральным, як на экране чорна-белага тэлевізара.

Мы страшэнна стамляліся. Ногі, сьпіна, рукі цяжка гулі, нават паварушыць пальцамі было балюча. Мы прачыналіся ў тых жа позах, у якіх клаліся. Раніцай мы не ўсьведамлялі, што пачаўся новы дзень. Мы перасталі чакаць зьменаў і ведалі, што новы дзень, акрамя новых клопатаў, не прынясе нам нічога.

Алесь штодня пісаў лісты да Касі. Ён знаходзіў вольную хвіліну, зашываўся дзе-небудзь у кут, схіляўся над паперай, прыкрываў яе рукой і пісаў. Калі яго клікалі, дык ён падхопліваўся, спалохана азіраўся, згортваў паперу, хаваў стрыжань у кішэню й бег на крык. Я ведаў, што ён не атрымлівае адказаў на свае лісты.

Аднойчы ліст выкралі й ноччу прачыталі ўголас на ўсю казарму. Ня ведаю, як мой сусед прачнуўся, відаць, ад рогату, а можа, адчуў нядобрае й падхапіўся.

- ... Ты прасіла мяне расшпіліць маланку, і я доўга, бо ру-

кі дрыжэлі, а я хваляваўся, ня мог я знайсьці. Ты сьмяялася з маёй нязграбнасьці, а я чырванеў. Ты лёгка скідала сукенку праз галаву, і яна падала да нашых ног. Я клаў яе на раяль, а яна сасьлізгвала на падлогу, і ты злавалася. Потым ты прычэсвалася, а я разгублена й зьбянтэжана глядзеў на цябе. Я ўвесь час баяўся, што хто-небудзь з тваіх сяброў зойдзе ў пакой і ўбачыць цябе, але я й хацеў, каб хто зайшоў і ўбачыў нас разам. Ты ўпэўнена хадзіла па пакоі, прыбірала сваю сукенку ў шафу. Ты адлюстроўвалася ў цёмным вакне, у шафе, у паліраваным раялі, вялікім люстры, а я саромеўся й баяўся падняць вочы...

Алесь стаяў у споднім пасярод казармы і прасіў, каб спыніліся, каб аддалі ліст. Але ягоны тонкі інтэлігенцкі голас яшчэ больш заводзіў публіку. Асобныя радкі і абзацы перачытваліся па некалькі разоў.

- ... а я саромеўся й баяўся падняць вочы. Ты кудлаціла й блытала мае валасы, закрывала мне вочы й казала, што я твой самы ўлюбёны кавалер. Ты накідвала вялікую мужчынскую кашулю й сядала да мяне на калені. Мне здавалася, што я губляю прытомнасьць, а ты сьмяялася...

Алесь бегаў ад ложка да ложка, блытаўся ў лябірынтах праходаў, падаў. Ягоны голас зрываўся на сьвісьцячы шэпт, быццам яму выбілі зубы. Потым ён пачаў рухацца запаволена, яго белую прывідную постаць пачало хістаць.

- ... Я не заўважаў, што скончылася музыка. Ты пацягвалася, адпускала мяне з абдымкаў і прасіла памяняць касэту. У пакоі пахла кветкамі, тваім целам і парфумай - мне здавалася, што я вельмі п'яны...

- Давай далей, што спыніўся! - крычалі з цемрадзі казармы.

Алесь стаяў пасярэдзіне.

- ... пахла тваім целам... я п'яны. Я прачнуўся раней за цябе. Мне было сорамна за маё нязграбнае цела. Я апрануўся й сеў у фатэль. Раніцай ты была сумная, на вуліцы ішоў дождж. Ты казала, што ўсё будзе добра, і разьвіталіся мы неяк хутка, я не пасьпеў табе ўсё сказаць...

Ліст Алесю аддалі. Кінулі на падлогу.

- Пятак, да ты пісьменьнік. Заўтра напішаш маёй, - сказаў сяржант, што ляжаў на першым ярусе пад намі.

- Ёй трэба не Пятак, а такі, як я, - зарагатаў нехта ў куце казармы.

- Лепш я. Раніцай ёй не было б сумна, - сказаў і пазяхнуў сяржант.

- Як ён там напісаў? Гладкія доўгія ногі і грудзі?

Алесь стаяў нерухома ды глядзеў у падлогу, вакол чуліся рэплікі, парады, кпіны. Ён не адказваў і здавалася, ня чуў і ня бачыў нічога.

Алесь падняў ліст і басанож па халоднай падлозе пацягнуўся ў прыбіральню. Калі я прыйшоў туды, ён кідаў парваную на дробныя шматкі паперу ва ўнітаз і пусьціў ваду. Я даў яму палову цыгарэты, але ён адмовіўся. Было халодна, мяне стала калаціць, і я вярнуўся ў казарму.

Сярод ночы я прачнуўся ад холаду. Мой сусед ляжаў паверх коўдры ды глядзеў на сіні ліхтар.

- Гэта невыносна... - шаптаў ён.

- Што?

- Ты што, ня бачыш?

- Ліхтар? - выдыхнуў я сіняй парай.

- Жалеза. Скрыгат жалеза.

- Накрыйся, - я пачаў нацягваць коўдру на галаву.
- Я зьбягу, - сам сабе прашаптаў ён.

Мы падхопліваліся з халодных ложкаў у выстылую за ноч казарму. На падваконьнях і на шкле была шэрань. Мы беглі ў прыбіральню, зьвягалі вёдрамі, хапалі анучы й рыхтаваліся да ранішняй прыборкі. Пасьля зарадкі запраўлялі свае ды чужыя ложкі, шаравалі з содай чорныя пісягі на лінолюме, выцiралi са шкапчыкаў і падваконьняў пыл, якога не было.

Алесь увесь час працаваў у "бібліятэцы" - так называлі прыбіральню. Парэпанымі ад хлёркі й халоднай вады рукамі ён шараваў кафляную падлогу - "гуляў у шашкі", чысьціў да гарачага бляску мядзяныя краны, мыў унітазы й рукамыйнікі.

З раніцы ўсе былі злосныя. Нашча палілі, сплёўвалі на падлогу і прысьпешвалі Алеся.

Дзень новы быў падобны з мінулым, як начышчаныя салдацкія гузікі.

Былі вечары, калі ўся рота стомлена валілася на ложкі, і пасьля двух-трох сто разоў чутых жартаў засынала. Нехта цяжка ўздыхаў, выкрыкваў каманды, лаяўся, стагнаў... Гэта былі рэдкія вечары.

Шаргацела па вокнах завея, курэла вакол ліхтара сіняя крупа, вецер лізаў шкло.

Такімі вечарамі Алесь распавядаў мне пра сябе, пра маці - настаўніцу малодшых клясаў, і, зрэдку, - пра Касю.

Грукалі боты - па казарме праходзіў дзяжурны па роце. Алесь змаўкаў, мы рабілі выгляд, што сьпім.

- ... Яна вучыцца на трэйцім курсе. Некалькі разоў я хадзіў на канцэрты ў кансэрваторыю. Уяўляеш, - вялікі чорны раяль, а ля яго кветкі, шмат кветак. У зале цішыня. Потым апладысмэнты...

Яна заўсёды выступае ў доўгай аксамітнай сукенцы, а ў валасы падвязвае чырвоную стужку...

Яна робіць паклон, падыходзіць да раяля, сядае, папраўляе спадніцу, ставіць ногі ў бліскучых лякавых чаравічках на пэдалі і разгортвае ноты...

Звычайна ў гэтым мейсцы ён спыняўся і паварочваўся на сьпіну.

- Пасьля канцэртаў мы разам з яе сябрамі ішлі да яе.

Я звычайна нёс кветкі. Яна казала, што мне пасуюць букеты ў шалёсткім цэляфане.Кветкі пахлі парфумай і сьнегам...

Дома мы вячэралі, пілі віно з высокіх крышталёвых келіхаў, уключалі магнітафон і танцавалі. Кася апранала джынсы й мужчынскую кашулю, а сукенку хавала ў шафу...

- Давай спаць, - прапаноўваў я.

- Ведаеш, аднойчы я застаўся ў яе. Гэта было вясной, на яе дзень нараджэньня...

- І што?

- Я не магу. Я зьбягу. Расклад цягнікоў я ведаю. Мне трэба ўбачыць яе. Хоць на некалькі дзён.

- Гэта нічога ня зьменіць. Заляціш у дысбат і ўсё.

- Ты не разумееш. Сьпі.

Мне сьніўся раяль. Маладая жанчына ў аксамітнай сукенцы. Вялікая шафа, у люстры якой адбіваецца яе прывабнае цела. Сукенка, якая мякка падае да нашых ног.

Музыка мне ніколі ня сьнілася.

Вясной, калі прайшла дэмабілізацыя, мы ўздыхнулі з палёг-

кай. Служба стала звыклая і аднастайная Мы нават зьнешне зьмяніліся: вопратка была чыстая, падшытая, адпрасаваная.

Алесь зрэдку пісаў лісты й не атрымліваў адказу.

Вечарамі мы размаўлялі пра службу, і, дзіўна, сьвятло ліхтара нам не замінала, хоць вакно было адчыненае ўсю ноч.

На той час у кожнага зьявіліся свае інтарэсы. Мяне перавялі працаваць у клюб, Алесь заступаў на варту, у нарады і езьдзіў на палігон будаваць гаражы й капаніры.

Мы ляжалі перад адчыненым вакном, глядзелі на цёмнае неба, на цёплыя вільготныя зоры, на матылёў, што лёталі вакол ліхтара.

Размова то перапынялася, то пачыналася ізноў.

- Праз тыдзень ёй дваццаць тры, - сказаў Алесь заклапочана.

- І што?

- У яе дзень нараджэньня. Трэба нешта рабіць.

- Лепш ня думай пра гэта, - параіў я.

- Не магу.

- Што ты з-за яе мейсца сабе не знаходзіш. Яна табе нават адказаць ня хоча. А ты...

- Яна тут ні пры чым, - сказаў ён пасьля доўгага маўчаньня.

Тут я не стрымаўся ды выказаўся пра яе і пра іхнія адносіны. Алесь выслухаў, паглядзеў на мяне, як глядзяць дарослыя на дзяцей, і вінавата ўсьміхнуўся.

- Яна любіць кветкі. Раніцой пазваню ў дзьверы й аддам вялікі букет. Ёй будзе прыемна.

- Давай спаць. Ведаеш, калі ў цябе будзе дзень нараджэньня, я куплю пяцьсот канвертаў і стос паперы табе ў падарунак. Каб ты пісаў ёй лісты, - сказаў я й хутка заснуў.

- Слухай. У цябе ёсьць грошы? - пабудзіў ён мяне ўначы.

- Ёсьць. Сьпі. Позна.

- Мне вельмі трэба. - Ён глядзеў на мяне й загадкава ўсьміхаўся.

- Ты што, ідыёт? Прасьпіся.

- Я не магу тут. Мне трэба быць там.

- Ты звар'яцеў! Цябе зловяць.

- Усё адно. Так будзе лепш.

Калі я чуў такое на пачатку службы, дык не надаваў асаблівай увагі, - усім было цяжка, усе хацелі зьбегчы...

Я размаўляў зь ім да сьвітаньня. Я пераконваў і адгаворваў. Перад сьвітаньнем, калі неба пачало сьвятлець, я пераканаў яго й стомлена заснуў.

... Паседжаньне трыбуналу адбывалася ў клюбе. Перад сцэнай паставілі дыктавую агароджу, пафарбаваную ў колер какі. Я стаяў на ганку й глядзеў на пляц. Дзіўна, я адначасова бачыў сябе і ўсё астатняе. Пляц быў вымыты, на ім ярка бялелі лініі ды стрэлкі, з ганку добра чыталіся каманды на бэтонных плітах. Жанчыну і афіцэра, якія йшлі да клюбу, я заўважыў адразу і зьдзівіўся нетутэйшаму выгляду жанчыны. Яны па дыяганалі перасеклі пляц. Калі жанчына параўнялася з тупаносай машынай і праходзіла каля закратаванага акенца, у яе з рук выпалі акуляры. Шкельцы разьбіліся на дробныя аскепкі, а мэталёвая аправа засталася цэлая... Потым жанчына час ад часу выцягвала яе з чорнага рыдыкюльчыка й хавала назад. Наўрад ці яна што добра бачыла. Яе твар напружваўся, вочы чырванелі, і я заўважыў, як

дробна дрыжэлі пальцы й крывіўся рот... Жанчына ня плакала і ўвесь час маўчала...

Зала сядзела ціха. Шмат хто спаў. Маладыя салдаты вылучаліся кароткаастрыжанымі галовамі й запэцканымі гімнасьцёркамі. Мікрафоны працавалі дрэнна, і часта голас прападаў у п.анізьлівым сьвісьце, які рваўся з калёнак.

Алесь быў апрануты ў цывільнае. Шэры швэдар і паношаныя джынсы ў зале колеру хакі вылучалі яго й ядналі з жанчынай на краі трэйцяга шэрагу. На сцэне побач з доўгім сталом, за якім сядзелі афіцэры, стаяў вялікі канцэртны раяль. У зале было задушліва, і ўсе дзьверы давялося адчыніць. На пляцы пачаўся развод на варту, і ў залу залятаці гучныя й рэзкія каманды. Мне было відаць, як Алесь уздрыгвае ад кожнага гуку, як ягоны твар палатнее й пляма робіцца цёмная.

Алесь увесь час глядзеў на вялікі канцэртны раяль у куце сцэны. Раяль быў на маленькіх бліскучых колах.

Калі Алеся пад канвоем вывелі з залы, усе адчулі палёгку. Тупаносая машына пасігналіла на пляцы й ціха-ціха пакацілася да КПП.

У зале, калі выйшлі ўсе колеру хакі, засталася жанчына. Яна сядзела на краі трэйцяга шэрагу, трымала ў руках аправу ад акуляраў і выцірала яе белай хусьцінкай. Жанчына ня плакала.

Нарад па клюбе пачаў насіць ваду й мыць залу. Салдаты не памылі толькі там, дзе сядзела Алесева маці...

Я прачнуўся за хвіліну да пад'ёму. Алесь спаў. За вакном вакном стаяў густы й вільготны туман. Кроплі блішчалі на білах ложкаў.

- Слухай, мне сьнілася такая каламуць пра цябе.
- Што? - не зразумеў ён.
- Сон дурны сасьніў.
- Даруй. Гэта з-за мяне - позна леглі.
- Нічога. У цябе ўсё нармалёва.
- Галава баліць.
- Добра, - сказаў я.

Пасьля сьняданьня я пацікавіўся, ці носіць Алесева маці акуляры ў мэталёвай аправе. Ён сказаў, што ніколі не насіла, нават ад сонца. Яшчэ ён сказаў, што хутка ў яе адпачынак, і яна да яго прыедзе. На гэтым размова скончылася. Я пайшоў у клюб. Алесь паехаў на будоўлю гаражоў.

Перад палудняй я даведаўся, што Алеся заваліла цэглай.

Ён саскочыў з кодаўбу самазвала і падвярнуў нагу. Ён не пасьпеў адпаўзьці. Пяць тон бітае цэглы абрынуліся на яго. Калі цэглу раскідалі, Алесь быў нежывы.

- Старшына, каб табе не было сумна, паклаў на мейсца Пятака маладога. Не пашанцавала хлопцу, - сказаў дзяжурны па роце, калі я вярнуўся з клюбу ў казарму.

Я паглядзеў на салдата, які спаў на Алесевым мейсцы. пасядзеў на сваім зэдліку. Потым згарнуў пасьцель і перайшоў на вольны ложак у цёмны кут казармы.

Я ляжаў з заплюшчанымі вачмі й лічыў: спачатку да сотні, потым да тысячы, потым да пяці тысяч, потым зьбіўся й пачаў спачатку.

# АДАМ ГЛОБУС

## З Д А Н І

### 1 - ДАМАВІК - І

Маладая жанчына засталася ў доме адна.

Увечары настойліва пазванілі ў дзьверы. Жанчына падумала, што прыйшла суседка, і адчыніла. На парозе стаяў незнаёмы барадаты мужчына ў чорным скураным паліце і ў капелюшы, насунутым на вочы. Жанчына памкнулася зачыніць дзьверы, але госьць спыніў яе выразным жэстам рукі ў бліскучай пальчатцы.

- Хто вы? Што вам трэба? - ледзь чутна прашаптала гаспадыня пустой кватэры.

- Я - Дамавік. Усё, што ў гэтым доме ёсьць, належыць мне. Ты таксама належыш мне, - мужчына зайшоў у дом. - Распранайся.

Жанчына скінула чырвоны ў белыя ружы халат і засталася ў чорнай шаўковай бялізьне.

- Усё здымаць? - спытала жанчына ў вастраносых ботаў.

- Усё, - прагучала з-пад цёмнага капелюша.

Гаспадыня скінула бялізну.

- Павярніся да мяне сьпінаю й сагніся.

Жанчына паслухмяна, сама ня ведаючы чаму, выконвала загады Дамавіка. Яна павярнулася да яго сьпінаю й сагнулася. Ён не здымаў нават пальчаткі, калі рабіў тое, што людзі звычайна называюць актам.

Акрамя халоднага страху, жанчына нічога не адчула.

Калі маладая жанчына ў чырвоным з белымі ружамі халаце курыла тонкую цыгарэту, яна была ўпэўненая, што Дамавік - плён яе фантазіі.

### 2 - КАДРАВІК

Жанчына прайшла доўгім калідорам і спынілася каля дзьвярэй з шыльдаю "аддзел кадраў". Пастукала. "Калі ласка", пачулася з-за абабітых дэрманцінам дзьвярэй. Зайшла. За сталом сядзеў худы чалавек у гарнітуры "тройка" і пры гальштуку - Кадравік.

- Ёсьць пытаньні? - ён паправіў вузел на гальштуку.

- Я па аб'яве, што была ў "Вечаровым Менску"...

- Дакуманты?

Жанчына вынула з рыдыкюля пакет і расклала на стале: пашпарт, працоўную кніжку, стужку фотакартак 3х4 і заяву, напісаную круглым почыркам. Кадравік зірнуў на дакуманты, заўважыў, што фотакарткі няякасныя - у жыцьці прыгажэй, устаў і апусьціў шторы на вакне. Ён запаліў верхняе сьвятло і доўгім важкім ключом замкнуў дзьверы. Ключ ён паклаў на высокі, размаляваны пад мармур сэйф. І толькі тады сказаў: "Можна".

- Тут? - жанчына агледзела кабінет.

- Так, - Кадравік паправіў гальштук.

- Сорамна...

Ён кароткім ключыкам адчыніў сэйф, дастаў адтуль бутэльку каньяку і чарку.

- Выпейце, каліласка.

- А Вы?

- Служба. Пры выкананьні, скажам так.

Жанчына выпіла каньяк. Распраналася яна павольна і акуратна. Кадравік зазначыў, што бялізна зусім новая. Сарамлівая жанчына схавала бялізну пад сукенку, павярнулася да Кадравіка і сказала:

- Сорамна.

- Прывыкнеце, - Кадравік ніколі не гаварыў з асобамі жаночага полу на "ты". - Прайдзіце колькі разоў па кіліме, я павінен паглядзець на вас, ацаніць, скажам так.

Статная жанчына нясьпешна пайшла па кіліме. Кадравік з прыемнасьцю глядзеў на яе вабныя формы ды сам сабе зазначыў, што не разумее, чаму такая жанчына павінна працаваць.

- Можна апрануцца, - сказаў ён.

- Але я ня супраць, - жанчына падыйшла да Кадравіка і распусьціла вузел ягонага гальштуку.

- Вы атрымаеце накіраваньне ў лепшую групу.

Натуршчыцай жанчына працавала нядоўга, яна выйшла замуж за выкладчыка тэхнікі жывапісу, і той забараніў ёй працаваць наогул.

Кадравік працягвае наліваць сарамлівым жанчынам каньяк.

## 3 - ВАДЗЯНІК

Легкавая машына афіцыйнага колеру прамінула мост, праехала праз лес, заехала на тэрыторыю пакінутага кляштара, абмінула званіцу й цагляныя выгбы разбуранага сабору, спынілася каля паруйнаванага палаца й пасігналіла.

Праз імгненьне з-за рога выйшаў хлопец у джутавым строі. Ён адчыніў дзьверцы афіцыйнай машыны, з якой выйшлі на някошаную траву дзьве маладыя асобы, бландзінка ды брунэтка, а за імі кіраўнік.

- Знаёмцеся, - выгукнуў кіраўнік і ўзяў хлопца пад локаць, - Вадзянік: гаспадар пакінутага, забытага богам і людзьмі кляштара і сьвятой вады. А гэта мае брунэтка й бландзінка. Імёны й прозьвішчы яны пакінулі ў лесе пад мостам.

- Пайшлі да сьвятой вады, - прапанаваў гаспадар пакінутага кляштара.

- Чакай, - кіраўнік адчыніў багажнік, дзе хавалася вялікая кардонная скрыня.

Вадзянік прыхапіў скрыню, і госьці пайшлі па высокай траве за джутавай сьпінаю Вадзяніка.

За палацам, у лагчыне стаяла на сьвятой крыніцы лазьня, збудаваная па праекту кіраўніка. Лазьня была падрыхтаваная да ачышчэньня ці забруджваньня, бо ўсё залежыць ад сьветапогляду й веравызнаньня.

Д а в е д к а.

Кляштар, заснаваны ў XУ стагодзьдзі на паганскай сьвятой крыніцы. Некалькі разоў ён пераходзіў ад каталікоў да праваслаўных і наадварот. Доўгі час у кляштары мясьціўся сірочы інтэрнат. У 50-х гадах нашага стагодзьдзя інтэрнат перавялі

ў райцэнтр і кляштар канчаткова заняпаў. У 80-х на тэрыторыі кляштара жыве мужчына, прозьвішча - Вадзянік.

Бландзінка й брунэтка распакавалі скрыню, сабралі на стол, распрануліся. Яны пакінулі на сабе толькі ўкрасы: бранзалеты, пярсьцёнкі, завушніцы, каралі, кулоны, залатыя ланцужкі, крыжыкі, грабеньчыкі, заколкі...

Калі жанчыны разьлілі па фужэрах густы каньяк, Вадзянік сказаў:

- Ня п'ю.

- Ха-ха, - мовіла аголеная бландзінка й паправіла бранзалет.

- Хі-хі, - мовіла аголеная брунэтка й паправіла пярсьцёнак.

- Што праўда, то праўда. Ня п'е, - падсумаваў кіраўнік.

Госьці выпілі каньяк.

- Музыка, - сказаў кіраўнік.

Уключыўся магнітафон.

Вадзянік сядзеў у кутку і са смакам еў сакавітыя скрылькі кансэрваванага гарбуза. Еў ён відэльцам са слоіка.

- Горача, - кіраўнік расшпіліў верхні гузік сваёй афіцыйнакрухмальнай кашулі. - Распраніце мяне.

Жанчыны спрытна распранулі кіраўніка.

- Танцы, танцы, танцы! - лазьню запоўнілі кіраўніковы воплескі.

Жанчыны таленавіта затаньчылі на жоўтай падлозе ў сакрэтнай лазьні. Яны спакушальна пагойдвалі клубамі, плаўна выгіналі станы, сарамліва закрывалі далонямі твары... Кіраўнік змрочна піў каньяк з цытрынай. А Вадзянік, абыякавы да падзеяў, піў са слоіка гарбузовы марынад.

- Карціны, - загадаў кіраўнік.

Жанчыны спыніліся, абняліся й пачалі старанна разыгрываць сцэны лезьбіянства. Яны амаль натуралёва цалаваліся ды звышпяшчотна лашчыліся, калі Вадзянік незаўважна зьнік са свайго ўтульнага кутка. На крэсьле застаўся пусты слоік з-пад кансэрваванага гарбуза ды відэлец у ім.

Дзьверы ў лазьню засталіся прачыненыя. На вуліцы каралявала лета. Шэравая маланка магла заляцець у лазьню й спаліць яе разам з "карцінамі". Так і здарылася.

На папялішчы знайшлі відэлец. Легкавую машыну афіцыйнага колеру знайшлі толькі праз тыдзень на беразе возера Сьвіцязь, а Вадзяніка дагэтуль небеспадстаўна шукаюць, бо дзьверы трэба зачыняць.

## 4 - ДАМАВІК - II

Муж спаў, жонка чытала, калі ў дзьверы пагрукалі. Яна паспрабавала пабудзіць свайго мужа, але той не прачнаўся, - ён спаў мёртвым сном. Пагрукалі зноў. Жонка крадком зірнула ў дзьвярное вочка. На пляцоўцы стаяў і глядзеў на яе Дамавік. У Дамавіка быў твар добрага знаёмага, чыё імя яна ніяк не магла ўспомніць. Жанчына ўскрыкнула, але муж так і не прачнуўся.

Дамавік дастаў з глыбокай кішэні свайго скуранога палітона вялікую зьвязку рознакалібравых ключоў, выбраў патрэбныя, адамкнуў дзьверы ды зайшоў у перадпакой, дзе сядзела на падлозе перапалоханая жанчына.

- Муж прачнецца, - яна баранілася як магла.

- Не прачнецца, ён сьпіць мёртвым сном, і можаш думаць, што што ты ўдава.

У перадпакоі моцна зэлахла вільготнай скурай. На вуліцы, пэўна, ліло, як зь вядра, бо Дамавік быў ушчэнт мокры. Са скуранога крыса падалі на падлогу буйныя кроплі.

Дамавік зьняў капялюш, сьцягнуў пальчаткі, скінуў паліто... Вастраносыя боты ён паставіў побач з наваксаванымі чаравікамі мужа.

- Толькі ня тут, - папрасіла жанчына.

- Тут, - сказаў Дамавік.

Каб у падручніку біялёгіі быў параграф "Дамавікі", дык напэўна можна было б прачытаць такі сказ: "Аднаўленьне патомства ў Дамавікоў адбываецца праз полавы акт". Але ў падручніку такога параграфу няма, і таму тое, што адбывалася ў вітальні, назваць полавым актам нельга. Калі для жанчыны гэта й быў акт, дык для Дамавіка - форма дыпляматычных зносін. Ён сам так лічыў.

Калі жанчына адчула задавальненьне, Дамавік адхінуў яе, апрануўся па-вайсковаму хутка і зьнік.

Да самай раніцы муж праспаў, як забіты.

Калі муж з жонкай сьнедалі, тая хацела распавесьці пра Дамавіка й падаць гэтае здарэньне, як жахлівы сон, але перадумала, бо рэўнасьць можа ўзьнікнуць нават з-за апавяданьня пра мёртвы сон.

## 5 - ЛЯСУН

На каталіцкі Вялікдзень студэнт і навучэнец са студэнткаю паехалі ў лес.

Студэнт і навучэнец несьлі ў руках кожны па дзьве семсотграмовыя пляшкі віна "Прамяністае", а студэнтка несла пакет з хлебам і салодкімі пліткамі.

У лесе ляжаў сьнег, і яны доўга ішлі да паляны, дзе, як сьцьвярджаў навучэнец, сьнегу не павінна быць.

На доўгашуканай паляне сьнегу не было, яе засьцілала леташняя трава, высушаная велікодным сонцам.

Першы тост выпілі за ўваскрашэньне Ісуса Хрыста. Другі - за Збавіцеля. Трэйці - за любасьць да бліжняга. Чацьверты - за каханьне...

Пакуль студэнт адкаркоўваў апошнюю пляшку, навучэнец заснуў. Студэнты выпілі па глытку й заелі таннае віно салодкімі пліткамі.

- Быр-р-р! - пакруціў галавою студэнт.

- Больш не хачу, - прашаптала студэнтка.

- Пройдземся? - прапанаваў ён.

Яны ішлі па лесе, пакуль ня выйшлі на паляну, дзе, як і на першай, не было сьнегу.

Ён заступіў ёй дарогу і спытаў:

- Можна я цябе пацалую?

Студэнтка дазволіла.

Ён пацалаваў яе вельмі доўгім пацалункам і спытаў:

- Падабаецца?

Калі тая сказала, што падабаецца, студэнт спытаў:

- Можна, я буду цалаваць твае грудзі?

Яна пачырванела, як ранэт, і сказала:

- Можна, толькі грудзі ў мяне вельмі вялікія, пад кофтай і

курткай не відаць, а так вельмі ўжо вялікія, проста жах.

- Студэнт расшпіліў куртку і кофту і цалаваў сапраўды вельмі вялікія грудзі.

Потым студэнт і студэнтка леглі на прагрэтую вялікодным сонцам траву.

- Ня так, - сказала яна.

- А як? - спытаў ён.

Студэнтка стала на калені, сагнулася й сказала:

- А тыззаду. Мне так больш падабаецца, бо ў мяне бліжэй да заду.

Ён сказаў ёй шмат ласкавых і пяшчотных словаў, і яна сказала яму шмат добрых словаў.

Потым яны вярнуліся на паляну, дзе спаў прытручаны благім віном навучэнец.

Студэнты дапілі "Прамяністае" і даелі хлеб з салодкімі пліткамі. Яна заснула. Ён палюбаваўся, як прыгожа, не раўнуючы тыя анёлы, сьпяць навучэнец і студэнтка. Палюбаваўся, засумаваў і пайшоў з лесу ў горад.

Навучэнец прачнуўся і ўбачыў студэнтку, што спала на траве. Ён падпоўз да яе й пацалаваў. Студэнтка прачнулася, але дзеля цікаўнасьці зрабіла выгляд, што яшчэ сьпіць. Навучэнец зразумеў, што студэнтка ўдае, быццам не прачнулася. Але дзеля цікаўнасьці пачаў распранаць яе. Калі ён цалкам распрануў яе і распрануўся сам, студэнтка зрабіла выгляд, што прачнулася і сказала:

- Ня так.

- А я люблю так, - казаў навучэнец, калі яны пачулі чужы, не студэнтаў голас.

- Так нельга рабіць!

Ён сеў і яна села. Яны сядзелі на траве й глядзелі на таго, хто перапыніў гульню.

Перапыняльнік быў вусаты, у фрэнчы, з партупеяй, у ботах і фуражцы зь лякіраваным брылём.

- Так нельга рабіць! - паўтарыў ён і дадаў, - Я - Лясун, сачу за парадкам у лесе. Вы папілі й паелі... А хто абгорткі ад салодкіх плітак будзе прыбіраць? Спачатку прыбярыце, а потым мілуйцеся.

Студэнтка й навучэнец пад наглядам Лесуна прыбралі сьмецьце.

На праваслаўны Вялікдзень студэнтка й навучэнец згулялі вясельле, а студэнта не запрасілі, бо ён не прыбіраў абгорткі.

6 - РУСАЛКА

Муж вярнуўся з доўгае камандзіроўкі. У доме ва ўсіх пакоях гарэла сьвятло й па-сьвяточнаму пахла печывам. "Прыемна вяртацца, калі цябе чакаюць. Цудоўна, калі ў доме водар печыва. Добра, калі жонка цябе сустракае", - падумаў ён і голасна паклікаў.

У лазенцы шумела вада.

Муж пастукаў па касяку.

Ніхто не адгукнуўся. Тады ён згасіў сьвятло.

- Ой! Хто тут?! - пачулася праз шум вады. - Запаліце сьвятло!

Муж засьмяяўся, уключыў сьвятло. Дзьверы ў лазенку адчыніліся. На кафлянай падлозе стаяла бліскуча-іскрыстая жанчына.

- Ты мяне напалохаў, - сказала яна. - Я табе гэтага не дарую. Я чакала цябе, а потым ледзь не заснула. Каб зусім не заснуць, вырашыла прыняць душ.

- А я чую, вада шуміць, паклікаў цябе раз-другі, ты не адгукаешся, вось і выключыў сьвятло, - муж стаяў з валізкай у руцэ.

- Распранайся. Прымі душ. Як я сумавала без цябе...

Ён паставіў валізку на кафляную падлогу, зьняў паліто і капялюш. Кашулю ён паклаў у скрыню для бруднае бялізны.

- Хутчэй, - паклікала яна. - Я так сумавала без цябе, ты сабе не ўяўляеш.

- Уяўляю, - ён стаў пад іскрыстыя гарачыя струмяні.

Жанчына абняла і пацалавала яго.

- Няўжо нельга пачакаць? - зьдзівіўся мужчына.

- Нельга. Я і так доўга чакала...

- Стоячы нязручна.

- Зручна.

Іскрыстыя пырскі ляцелі на валізку, паліто, капялюш...

Мужчына расьцерся шорсткім ручніком, накінуў халат і выйшаў у перадпакой. Ён прычэсваўся, калі пачуў, як паварочваецца ключ у замку ўваходных дзьвярэй.

Калі жонка з боханам хлеба ў руках зайшла ў дом і ўбачыла зьнябожаны мужаў твар, яна зьдзівілася й сказала:

- Няўжо я цябе так моцна напалохала? - яна скінула паліто. - Ведаеш, я тут усё падрыхтавала, і раптам спахапілася, што ў доме хлеба няма. Недарэчна атрымалася...

- Чаму недарэчна? Нармалёва, - муж вярнуўся ў лазенку, паглядзеў, як хутка правальваецца вада ў закрыжаваную адтуліну, закруціў кран, паглядзеў на сябе ў люстра, сьцепануў плячыма й ціха, каб ня бачыла жонка, вынес у перадпакой капялюш, паліто і валізку.

## 7 - МАСАВІК

Масавік агледзеў пустую залу й застаўся незадаволены. Ішла рэпетыцыя, а яму хацелася ў лес ці ў парк, дзе можна пасядзець каля фантана, а не кіраваць бяздарнымі фіглярамі.

- Калі ласка, - дазволіў Масавік.

Актор раскінуў доўгія рукі і магнітафонным голасам сказаў:

- Ты мая далігойла.

Акторка стала на дыбачкі, выструнілася і прашаптала гучна, на ўсю залу, як і належыць, каб нават студэнты на бальконе пачулі,- вядома, калі прыйдуць:

- Ты мой абізгая.

Абняліся актор з акторкаю нязмушана, так, што нават Масавіку спадабалася. Актору было прыемна абдымаць акторку, яна падабалася яму. А вось ён, чамусьці, ёй зусім не падабаўся.

- Ласкава, - карэктаваў Масавік.

- Твае вусны, як лулы, - пайшла рэпліка акторкі.

- Твае вочы, як жырдагоны, - актор не патрапіў у танальнасьць, і замест "ласкава" ў яго атрымалася "сантыментальна і са сьлязой".

- Мы з табою нібыта бусайлы, - у адзін голас вымавілі акторы і пацалаваліся. Яму было, вядома, салодка, а ёй, пэўна ж, горка.

- Тэмперамент! Дзе ваш тэмперамент? - абурыўся Масавік, ні-

быта яго хвалявала рэпетыцыя.

У п'есе была рэмарка - яны кусаюцца. Замест таго, каб сыграць укус, актор моцна пацалаваў акторку, а яна па-сапраўднаму ўкусіла актора за шчаку і крыкнула:

- Каб на цябе жырандоля грымнула!

- Каб ты кроўю сьмяялася, - млява адказаў той і пацер кулаком пакусаную шчаку.

- Выразнасьць! - Масавік ударыў даланёю па мяккім крэсьле.

Акторы разьбегліся ў розныя куткі сцэны.

- А каб ты астыў, ты! - з натуральнай злосьцю атрымалася ў акторкі, бо яна кахала Масавіка.

- А каб тваю труну зямля выкінула! - з расейскім акцэнтам крыкнуў актор, бо ён толькі першы год граў у беларускім тэатры і калі хваляваўся, дык быў няздатны сачыць за вымаўленьнем.

- Жорстка трэба, жорстка і без акцэнту. У нас нацыянальны тэатар, - зазлаваў Масавік.

- Ты кіж-лун, - саркастычна кінула актрыса.

- А ты гла-ма-зда! - адсёк актор.

Яны склалі фігуры з пальцаў.

- Нюхай!

- Цалуй!

- Бе-е-е, - яна сьвідравала пальцам скронь.

- Э-э-э, - ён вываліў язык.

Потым ён ускінуў кулак і рушыў на яе. Яна зазваніла зубамі.

- Стоп! Стоп! Стоп!!! - замахаў рукамі Масавік.

Акторы павярнуліся да яго і ў адзін голас сказалі: "Кадук!"

Масавік зьніякавеў.

- Ты мая далігойла, - магнітафонным голасам сказаў актор і шырока раскінуў рукі.

- Ты мой абізгал, - акторка стала на дыбачкі і выструнілася.

І ў гэты момант па недаглядзе рабочых сцэны апусьцілася заслона.

## 8 - МАЛЫ ЧАЛАВЕК

Афарміцель быў у гуморы. Раніцай ён атрымаў ганарар за афорты да зборніка паданьняў. Удзень вярнуў пазыкі, а ўвечары шпацыраваў па праспэкце, - спадзяваўся сустрэць знаёмага і адзначыць падзею. Ганарар як-ніяк. Вядома, можна было затэлефанаваць ці зайсьці да сяброў, але тады страчвалася шчасьлівая доўгачаканасьць, у якую верыў афарміцель. Ён начытаўся паданьняў і быў упэўнены, што лесуны, дамавікі і русалкі павінны яму аддзячыць за свае партрэты ў тоўстым зборніку.

Афарміцель мінаў рэстаран, калі пачуў тонкі голас:

- Ідзі ў рэстаран.

Афарміцель азірнуўся, але нікога не заўважыў і пайшоў паўз рэстаранны партал.

- Вярніся і зайдзі ў рэстаран, - загадаў тонкі голас.

Афарміцель зірнуў пад ногі і ўбачыў Малога чалавека, што стаяў на тратуары. Малы чалавек быў велічынёю з сярэдняга ката, калі таго паставіць на заднія лапы. На ім быў спартовы строй, а за плячыма - рэчмяшок. Падабенства з катом надавалі вусы і вочы бутэлькавага колеру.

- Я Малы чалавек, - ён падміргнуў кацiным вокам. - Мне даручылі арганізаваць сьвята ўдзячнасьці. Звычайна я гэткім ча-

сам бегаю, займаюся марафонам дзеля задавальненьня, а не дзеля рэкордаў, як людзі. Але, калі трэба дапамагчы табе зрабіць гэты вечар сьвяточным, дык дапаможам. Ідзі ў рэстаран.

Афарміцель ня стаў спрачацца, шчасьлівая доўгачаканасьць здарылася, і цяпер можна выпіць за яе.

- Хо-о, каго мы бачым! Няўжо геніі ходзяць у рэстарацыі? - да афарміцеля праз усю залу кіраваў былы аднакурсьнік. - Давай да нас! Штрафную яму!

Афарміцель прайшоў да стала. Застоліца была на добрым падпітку, але зьяўленьне новага кампана ўспрыняла з насьцярогаю. Хто іх ведае, гэтых цьвярозых?

- Да дна! І закускі, - шумеў аднакурсьнік, - Дзень нарадзінаў у мяне, чацьверты дзесятак разьмяняў. Гуляю, як магу. Паглядзі, якія жанчыны.

Тыя апусьцілі вочы.

"Няблага атрымліваецца ў Малога чалавека, - падумаў афарміцель. - Праўда, жанчыны маглі б быць і маладзейшыя, бо пасьля другой чаркі я сябе адчую лішнім".

- За твае трыццаць гадоў, - афарміцель падняў поўную, як вока, чарку.

- За мяне мы тут пілі-перапілі. Прапаную выпіць за генія, які ня грэбуе нашым сталом, а потым патаньчыць.

Мужчыны выпілі, жанчыны зрабілі па глытку і пайшлі таньчыць, афарміцель застаўся адзін. Аркестар граў без напругі.

Праз хвіліну афарміцель паліў на ганку.

- Як? - спытаў Малы чалавек.

Афарміцель глянуў на неба.

- Ідзі да рэчкі, там будзе човен - пераедзеш на другі бераг. Тут два крокі да рэчкі, а там два крокі да гатэлю. У гатэлі лепш, там бар і рэстаран.

Афарміцель праз сквэр спусьціўся да Сьвіслачы. Каля берага стаяў човен. Побач па пояс у вадзе стаяў чалавек і намыльваў галаву. Ён паклаў мыла ў човен і сказаў:

- Сто гадоў не купаўся, а тут узяў човен на пракат і ня вытрымаў. Вось як, а вада цёплая-цёплая, нібыта ў дзяцінстве.

Ён зайшоў у ваду па грудзі і даў нырца. Вынырнуў ён далёка, і афарміцель засумняваўся, што гэты чалавек сто гадоў не плаваў. І мыла ў яго адкуль?

- А мыла я ўзяў у рэстараннай прыбіральні, - крыкнуў чалавек з сярэдзіны Сьвіслачы. - Сто гадоў ня краў, а тут не вытрымаў.

"Колькі ж ты жывеш на зямлі, калі апошні раз купаўся ажно сто гадоў таму?" - падумаў афарміцель, ён спадзяваўся пачуць адказ, але чалавек выйшаў з вады і загаварыў пра іншае:

- Заўсёды, заўсёды так - спачатку адно захочацца, потым другое, потым трэйцяе, і ні канца, ні краю... У мяне так. А ў цябе?

- На другі бераг хачу пераехаць.

- А як пераедзеш, што будзеш рабіць?

- Пайду ў рэстаран.

- Дык і на гэтым беразе ёсьць рэстаран.

Афарміцель засумняваўся. Ці варта было казаць праўду гэтаму чалавеку, які сто гадоў ня краў мыла ў рэстаранных прыбіральнях?

- Захацелася ў другі рэстаран.

- Вось і кажу, спачатку ў адзін, потым у другі, і ні канца, ні краю... Сядай.

Яны пераехалі на другі бераг хутка.

- Дзякуй, - сказаў афарміцель.
- Няма за што. Сто гадоў нырца не даваў, а тут, - адказаў чалавек і скокнуў з чаўна ў Сьвіслач.
"Вольных мейсцаў няма! Выбачайце" - паведамляла лямпавая шыльда.
"Прыплылі", - расчараваўся афарміцель.
- Тут твой аднакурсьнік у рэстаранным гурце на сола-гітары грае, - суцешыў расчараванага Малы чалавек і назваў імя разам з нумарам тэлефона.
- Хто? - зьдзівіўся гітарыст, калі пачуў голас і прозьвішча афарміцеля.
Той паўтарыў.
- А? Не чакаў, прабач. Зараз іду.
Гітарыст правёў афарміцеля ў залу і пасадзіў за маленькі столік на два мейсцы каля самай эстрады.
- Прабач, мне трэба граць. Блюз любіш?
- Люблю.
- Ты табе зараз сыграем сапраўдны блюз.
Блюз быў выдатны. У адрозьненьне ад папярэднічга рэстарану, тут гралі прафэсыйна, з густам і сваё, як пасьля растлумачыў афарміцелю гітарыст.
Афарміцель заказаў каньяк. Напой быў духмяны, афіцыянт ненавязьлівы, музыка... Карацей, усё было такое, як і павінна быць.
Публіка таньчыла. Афарміцель пашукаў вачыма, каго б запрасіць на павольны танец і не знайшоў. Рэстаран быў дарагі, і, адпаведна, публіка мела як мінімум па трыццаць рублёў і гадоў на кожнага.
- У бар схадзі, там знойдзеш, - параіў у перапынку паміж кампазіцыямі гітарыст.
У бары працавалі кандыцыянеры, і дазвалялася паліць. Афарміцель замовіў каву з каньяком і сеў за столік. Наведнікаў было мала, і ён адразу знайшоў тое, дзеля чаго прыйшоў.
Яна сядзела за столікам адна і піла праз саломінку трунак.
Афарміцель папрасіў дазволу сесьці побач. Ён пачаставаў яе кавай з каньяком, а потым яны пайшлі ў рэстаран і доўга таньчылі.
Яна была немкаю і зусім ня ведала нашае мовы.
Калі афарміцелю надакучыла таньчыць, ён прапанаваў яшчэ выпіць, яна згодна кіўнула.
Афарміцель падыйшоў да гітарыста, які пераносіў апаратуру і інструмэнты з эстрады ў кладоўку, і папрасіў, каб той дастаў дзьве пляшкі сухога віна.
Гітарыст пайшоў да афіцыянта і ўзяў дзьве пляшкі Кабэрнэ. Калі афарміцель вярнуўся да століка, за якім пакінуў немку, яе там не было. Яна падумала, што ён з ёй разьвітаўся, і пайшла да сябе ў нумар. Афарміцель ня ведаў, як яе зваць і ў якім нумары яна жыве. Заставалася вярнуцца да гітарыста.
Яны загарнулі пляшкі ў плакаты і разам выйшлі з гатэля. Афарміцель і гітарыст ішлі з яркімі рулонамі ўздоўж рэчкі. Афарміцель прапанаваў адкаркаваць пляшку. Яны выпілі яе на беразе Сьвіслачы. Афарміцель прапанаваў адкаркаваць і другую пляшку Кабэрнэ, гітарыст адмовіўся. Яны пайшлі да праспэкту, дзе і разьвіталіся.
Афарміцель стаяў на прыпынку, калі да яго падбег Малы чалавек:
- Як пагуляў?
Афарміцель схіліў галаву на бок і нічога не адказаў.

- Яшчэ ня вечар. Ідзі дамоў пешкі спачатку па праспэкце, а потым праз сквэр і бульвар, не пашкадуеш. Толькі зрабі адну фармальнасьць. - Малы чалавек дастаў з рэчмяшка бланк і асадку. - Напішы тут: "Малы чалавек заданьне выканаў". Яшчэ пастаў дату і росьпіс. Разумееш, паўсюль бугальтэры ды начальнікі, іэрархія й адпаведная залежнасьць.

Афарміцель зрабіў усё, што прасіў Малы чалавек і пайшоў дадому пешкі. Праз хвіліну яго абагнаў зусім пусты аўтобус.

Афарміцель не паслухаў Малога чалавека і не пайшоў праз сквэр. Калі ён зьвярнуў у завулак, яму насустрач выйшлі з двара дзьве дзяўчыны.

- Добры вечар, - павіталася дзяўчына ў малінавай сукенцы.

- Добры вечар, - паўтарыла сяброўка ў сініх сандалях.

- Вечар добры, - афарміцель спыніўся.

- Прабачце, нам вельмі няёмка, але можа Вы нас пачастуеце цыгарэтай?

- Каліласка, - афарміцель прапанаваў цыгарэты.

- Дзякуй Вам, - сказала тая, што была ў сукенцы.

Тая, што была ў сініх сандалях, толькі кіўнула.

- У мяне ёсьць віно, - афарміцель пстрыкнуў па рулоне.

Дзяўчыны запытальна глянулі адна на адну.

- Мы ня супраць, - сказала адна з іх.

- Можна пайсьці да нас, - прапанавала другая.

У дзяўчат была двухпакаёвая кватэра, але віно пілі на кухні. Іграў магнітафон. Афарміцель танчыў з дзяўчатамі. Калі скончылася Кабэрнэ, ён пайшоў на вуліцу, спыніў таксі і набыў у шафёра бутэльку сталічнай. Піць афарміцелю больш не хацелася. Ён і ня піў, а дзяўчаты пілі з задавальненьнем.

Потым дзяўчына ў сініх сандалях сказала, што стамілася, і пайшла класьціся спаць.

Афарміцель танчыў з другой дзяўчынай, пакуль не ўгаварыў яе разам легчы спаць.

Яны па чарзе прынялі душ. Пакуль афарміцель чаргаваў гарачую і сьцюдзёную ваду, каб пад кантрасным душам вярнуць сабе бадзёрасьць, дзяўчына разабрала ложак і схавалася пад коўдраю.

У яе была выдатная фігура і ненавязьлівы тэмперамент.

Прачнуўся афарміцель на золку.

На развітаньне ён пацалаваў дзяўчыну, якая спала.

## 9 - ДАМАВІК - III

Жонка ўзяла ключ ад паштовае скрыні й пайшла па газэты. Разам з газэтамі яна прынесла ў кватэру ліст. На капэрце друкаванымі літарамі было выведзена "Ад Дамавіка". У лісьце было напісана наступнае:

"Паважаныя муж і жонка, ці - партнёры!

Не дзівіцеся, калі прачытаеце гэты ліст. Больш як год я назіраю за вамі, дакладней, за вашым інтымным жыцьцём. Таму лічу сваім абавязкам даць ці прапанаваць вам колькі парадаў. Праз вакно спальнага пакою мне было цудоўна відаць мноства вашых полавых актаў. Мне спадабаўся сваім тэмпераментам партнёр, і чэляс у яго нармальных памераў. Партнёрка больш стрыманая, але таксама любіць гэты занятак. Параю вам перад тым, як не асрэдна займацца актам, паболей расьцягваць эратычную гульню. Мне

эдаецца, што ты замала ўзбуджаеш сваю пар¬нёрку. Да прыкладу: пачні з таго, што сам распрані яе да бялізны, потым пачынай распранацца сам, а станік і майткі здымай з партнёркі пад час свайго распрананьня. І не сьпяшайся. Потым цалуй партнёрку і пальцам ласкава ўзбуджай секель... Потым цалуй грудзі... Партнёрка таксама не павінна ляжаць безудзельна, а рукою браць твой чэляс, цалаваць яго, браць у рот... Дарэчы, мне вельмі не падабаюцца вашыя позы. Звычайна - адна і тая. Трэба позы мяняць: партнёрка зьверку; яна стаіць на каленях, а ты - ззаду; лежачы на баку; лежачы - ты ззаду... Бо звычайна яна ногі ўздымае, потым выпроствае і кладзе на ложак, а ты ў гэты час "працуеш", пэўна ж ня зручна, бо партнёрка худая. Ногі яна павінна трымаць і вышэй, і шырэй...

Спадабаўся мне адзін ваш акт, у мінулую сераду. Вы забаўляліся пад кружэлку "Бітлз". Тады ты ўсё рабіў слушна, але крыху зацягнуў узбуджэньне, трэба было таксама рабіць гэта больш разнастайна. Але вось ногі ты ёй узьняў ну проста выдатна, я нават спалохаўся, крый Бог, парвеш ёй похву. Затое яна была ў экстазе і нават стагнала. Чаго-чаго, а гэтага я за ёю раней не заўважаў. І яшчэ, партнёрка павінна спаць у начной сарочцы, гэта ўзбуджае значна больш. Мне на яе агаленую глядзець надакучыла.

Зрэшты, усяго вам найлепшага.

Забаўляйцеся часьцей, бо ў мінулым годзе вы рабілі гэта ледзь не штодня, а цяпер толькі раз ці два на тыдзень.

Разьвітваюся.

Ваш Дамавік."

Жонка паказала ліст мужу. Той прачытаў, парваў яго на дробныя кавалкі і выкінуў у сьметніцу.

Цяпер яны завешваюць шторы на вокнах так, каб не заставалася ніводнае шчыліны. Але...

## 10 - СУПРАЦОЎНІК

- Што ты робіш увечары? - спытала сакратарка.
- Ня ведаю яшчэ, - адказаў Супрацоўнік.
- Ты мог бы да мяне прыйсьці?
- А хто яшчэ пойдзе?
- Цішэй. Нашто крычаць? Ніхто ня прыйдзе.
- ...
- Няўжо ты ня верыш, што можна вось так, раптоўна закахацца і прапанаваць сябе?
- ...
- Дык што, прыйдзеш?
- Заўтра прыйду.

Яна паклала яму ў кішэню каталожную картку, дзе зграбным почыркам быў напісаны адрас і тэлефон.

Ён вярнуўся ў кабінет, дзе над паперамі схіліўся калега.

- Жанчыны пашалелі, - сказаў Супрацоўнік.
- Пашалелі. Ты пра што? - калега ўзьняў галаву.
- Падыходзяць і прапануюць сябе.
- За грошы ці так, з-за каханьня?
- Так, без каханьня і грошай.
- Ты адмовіўся?
- Не. Але ведаеш, у гэтым нешта ня тое.

- Жанчына просіць, трэба ісьці, - калега схіліўся над сталом.

Супрацоўнік затэлефанаваў да сакратаркі з мэтро.

- Гэта я, - сказаў ён, - праз паўгадзіны буду.

- Чакаю, - сказала яна.

Калі ён здымаў куртку, яна пацалавала яго і прашаптала:

- Не палохайся, тут у мяне госьці, але яны хутка сыйдуць.

Госьці сядзелі на канапе і глядзелі тэлевізар. Іх было двое. Ён - худы з акулярамі "ровар" на гарбаносым твары. Яна - зграбная славянка з папяловай фрызурай і ласкаваю паставай.

Трансляваўся футбол.

- Хутка скончыцца, і мы пойдзем, - госць глядзеў на экран.

- Мы з табой былі ў кіно, глядзелі "Кінг-Конг", - сказала госьця да гаспадыні.

- Пра што фільм? - спыталася тая.

- Пра каханьне малпы і жанчыны.

У тэлевізары зафуркаў сьвісток і матч скончыўся. Госьць падыйшоў да вакна і сказаў:

- Дождж пачаўся. Можа перачакаем?

- Трэба ісьці. Калі б мы выйшлі пасьля сэансу, мы б не чакалі, а ішлі б, нават беглі б.

Супрацоўнік падумаў, што ён з вялікім задавальненьнем пераспаў бы з госьцяю чымсьці з гаспадыняй, але гэта цалкам нерэальна.

Госьці зашпіліліся і сыйшлі ў вечаровы дождж.

Сакратарка села на калені да Супрацоўніка. Ён досыць пяшчотна пагладзіў яе па сьпіне. Пацалункі былі даволі прыстойныя.

- Так сьветла яшчэ... Ня ведаю, што рабіць? - сказала сакратарка.

- А мне ўсё адно, сьветла ці цёмна.

- Тады я зараз прыйду.

Яна вярнулася ў кароткай сарочцы, што ледзь-ледзь прыкрывала клубы.

- Я люблю на падлозе, - жанчына дастала з шафы крухмальную прасьціну і раскінула яе па кіліме.

Супрацоўнік раптам падумаў, што ў яго можа нічога не атрымацца, і спытаў:

- Ты любіш спаць па падлозе, каб нельга было сказаць, што мы ўсе сьпім у адным ложку?

- Распранайся. Ці давай я цябе распрану. Мне будзе прыемна.

Яна распранула яго асьцярожна і нясьпешна. Ён падумаў, што яна распранае яго, як нябожчыка. Яна скінула праз галаву кароткую сарочку і легла на сьпіну. Ён думаў, што хадзіць у публічны дом значна горш, чымсьці рабіць тое, што ён робіць зараз. Акт атрымаўся рацыянальны, з наборам стандартных пастаў, разрэклямаваным айчынным тэле-кінематографам.

На працы Супрацоўнік і сакратарка рабілі выгляд, што нічога не здарылася і мелі рацыю, бо рацыянальны акт - гэта гігіена.